—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
26
ЧЭРВЕНЯ
1992 г.
№ 26 (3644)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)





Мой сябра шмат гадоў выпісвае «ЛіМ». Мой сябра пабудаваў у вёсцы хату і пасадзіў дрэвы. На гэтым здымку—звычайныя сяляне і разам з тым незвычайныя, бо гэта—бацькі майго сябра Пілiп і Кацярына Канышкі.
Анатоль КЛЯШЧУК.

# Кола Дзён

Мінулы тыдзень для жыхароў Еўропы стаўся пераломным: светлавы дзень дасягнуў свайго апагея і зноў пачаў змяншацца; павярнулася гадавая вось. Прыродная метамарфоза быццам узбадзёрыла палітыкаў—тыдзень адзначаны шматлікімі замежнымі паездкамі лідэраў краін СНД, у тым ліку і Беларусі. Прэзідэнт Расіі закончыў візіт у Канаду і Амерыку, дзе вёў перамовы аб скарачэнні стратэгічных узбраенняў і эканамічных узаемаадносінах. У часе побыту ў Амерыцы Б. Ельцына амерыканскі бок аб'явіў аб вяртанні Расіі статуса найбольшага спрыяння ў гандлі (які быў страчаны СССР у сямідзесятых гадах)...

Цэнтральнай падзеяй палітычнага жыцця Беларусі на мінулым тыдні стаўся візіт Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча ў Польшчу.

**19 ЧЭРВЕНЯ**

Стала вядома аб намеры ўрада Беларусі ўвесці ў хуткім часе візавы рэжым для ўезду ў рэспубліку замежных грамадзян. Мера выклікана ростам злачынстваў з боку асоб «каўказскага паходжання». Яшчэ раней Мінгарвыканкам увёў абмежаванні на пражыванне дадзеных грамадзян у менскіх гатэлях.

Пад старшынствам С. Шушкевіча 19 чэрвеня адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, на якім паміж іншым утворана Камісія па забеспячэнні адзінай палітыкі выкарыстання дзяржаўных сімвалаў рэспублікі, зацверджаны палажэнні, аб Дзяржаўнай прэміі ў галіне навукі і тэхнікі, а таксама аб Камітэце па Дзяржаўных прэміях. Прыняты Указ ПВС, якім зацверджана Палажэнне аб парадку разгляду пытанняў, звязаных з грамадзянствам Рэспублікі Беларусь.

**20 ЧЭРВЕНЯ**

Дзевяць спецыялізаваных фірм з Італіі, Англіі, Францыі, Даніі, Швецыі, іншых краін прадставілі Дзяржзнаку макеты беларускага пашпарта. Варыянт дакумента будзе адабраны дзяржаўнай камісіяй. Новыя пашпарты грамадзяне РБ маюць атрымаць у 1993 годзе.

**21 ЧЭРВЕНЯ**

У горадзе Пераяслаў-Хмяльніцкі адбыўся круг украінскага казацтва. Казакі адракліся ад клятвы на вернасць расейскаму цару, дадзенай у 1654 годзе, і прынялі прысягу на вернасць украінскаму народу.

Мінская і Маскоўская вобласці падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве.

**22 ЧЭРВЕНЯ**

Паміж Гомелем і Варшавай адкрыты прамы чыгуначны шлях.

**23 ЧЭРВЕНЯ**

Пачаўся візіт у Польшчу Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча. У складзе дзяржаўнай дэлегацыі — міністр замежных спраў П. Краўчанка, мітрапаліт Філарэт, народны пісьменнік Беларусі В. Быкаў, старшыня Камісіі па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах М. Слямнёў, намеснік старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны А. Трусаў і інш. У гэты ж дзень лідэры Беларусі і Польшчы падпісалі першы ў гісторыі ўзаемадачыненняў двух народаў Дагавор аб добрасуседстве і супрацоўніцтве. Дагавор разлічаны на пятнаццаць гадоў. У ім бакі пацвердзілі дзяржаўныя межы, адмовіліся ад прымянення сілы або пагрозы яе прымянення, дамовіліся аб перспектыўным эканамічным і культурным супрацоўніцтве.

**24 ЧЭРВЕНЯ**

У Мінску адкрылася другая беларуска-амерыканская канферэнцыя па пытаннях выкарыстання рэспублікай прамых замежных інвестыцый і развіцця знешнеэканамічнага супрацоўніцтва «Бізнес-2».

Старшыня Савета Міністраў Беларусі В. Кебіч прымаў пасла Францыі Клода Жоліфа па яго просьбе. Абмяркоўваліся пытанні далейшага развіцця беларуска-французскіх узаемаадносін.

**25 ЧЭРВЕНЯ**

Закончыўся візіт беларускай дэлегацыі ў Польшчу. С. Шушкевіч пабываў у Кракаве, дзе ўсклаў кветкі да сцяны смерці ў Асвенціме, а таксама на Беласточчыне, дзе сустракаўся з прадстаўнікамі беларускай супольнасці ў Рэспубліцы Польшча.

# ЗВАРОТ

## Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Дарагія суайчыннікі!

3 ліпеня 1944 года — адна з самых памятных дат у нашай гісторыі. 48 гадоў назад была вызвалена сталіца Рэспублікі Беларусь горад Мінск. Гэты дзень адзначаецца як свята вызвалення ўсёй беларускай зямлі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, як сімвал подзвігу тых, хто адстойваў незалежнасць нашай шматпакутнай зямлі на фронце, у партызанскім атрадзе, у падполлі.

Свабода дасталася вельмі дарагой цаной — загінулі мільёны людзей, таму гэты дзень заўсёды адзначаецца і з радасцю, і са слязамі на вачах. Прайшло амаль паўвека, але па-ранейшаму ў сэрцах людскіх жывая памяць аб тых, хто не дажыў да перамогі.

Напярэдадні 48-й гадавіны вызвалення Беларусі мы звяртаемся да вас, грамадзяне незалежнай рэспублікі, да вас, народныя выбраннікі, хто прадстаўляе органы ўлады ўсіх узроўняў, да вас, кіраўнікі працоўных калектываў, да вас, прадстаўнікі маладога пакалення, з заклікам зберагчы добрыя традыцыі нашага народа. Мы выказваем надзею, што ў горадзе Мінску, гарадах і раёнах усёй рэспублікі пройдуць урачыстыя сходы, адбудуцца мітынгі, сустрэчы аднапалчан, воінаў і партызан. Упэўнены, што будзе арганізавана работа па добраўпарадкаванні помнікаў, мемарыяльных комплексаў, месцаў пахавання загінуўшых воінаў і партызан, мірнага насельніцтва, будуць ускладзены да гэтых святых месцаў вянкі і кветкі.

Аддаючы даніну памяці загінуўшых, усім ахвярам вайны, сардэчна і шчыра віншуем са святам былых салдат, партызан, падпольшчыкаў, усіх, хто перажыў жахі вайны. Ва ўмовах спаду вытворчасці, росту цэн многія з іх зведваюць зараз матэрыяльныя цяжкасці, і найпершы абавязак мясцовых органаў улады, кіраўнікоў працоўных калектываў аказаць ім неабходную дапамогу. Мы перакананы, што лепшы час наступіць.

З надыходзячым святам!

З Днём вызвалення Рэспублікі Беларусь!

ПРЭЗІДЫУМ
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.

# Армія загаворыць па-беларуску

Праграма вывучэння і паступовага пераходу Узброеных Сіл на дзяржаўную мову зацверджана калегіяй Міністэрства абароны рэспублікі. У адпаведнасці з Законам аб мовах такі статус мае беларуская мова. Але ў дакуменце не рэгламентавана ўжыванне моў у арміі. Аднак сітуацыя сёння змянілася. Ствараюцца ўласныя ўзброеныя сілы, і ў праекце закона аб іх, прынятым Вярхоўным Саветам рэспублікі ў першым чытанні, прадугледжваецца паступовы пераход арміі на беларускую мову.

На пасяджэнні калегіі было адзначана, што работу трэба пачаць з комплексу растлумачальных мерапрыемстваў. Важна, каб у ваеннаслужачых паявілася цікавасць да беларускай мовы, каб яны ўсвядомілі неабходнасць яе вывучэння. Тут нельга дапусціць кампанейшчыны, забягання наперад. Спатрэбіцца пераходны перыяд для вырашэння фінансавых пытанняў, падбору кваліфікаваных спецыялістаў. У ваенным бюджэце павінен быць асобны артыкул для вырашэння гэтай праблемы.

Але па многіх напрамках трэба дзейнічаць ужо сёння. Як падкрэсліў у сваім выступленні міністр абароны генерал-палкоўнік П. Казлоўскі, усю далейшую работу трэба паставіць на заканадаўчую аснову і весці прадумана, мэтанакіравана. Ужо з 1 ліпеня ў войсках будуць праводзіцца планавыя заняткі. Паралельна павінны рыхтавацца новыя статуты, указанні, інструкцыі. Прычым, іх трэба не проста перакласці на беларускую мову, а карэнным чынам перапрацаваць. У ажыццяўленні намечанага ваенным спатрэбіцца дапамога іншых міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі, творчых саюзаў, інтэлігенцыі. На працягу 6 гадоў плануецца поўнасцю перайсці на выкарыстанне ва Узброеных Сілах Беларусі дзяржаўнай мовы.

(БЕЛТА).

# Спадкаемцы ВКЛ

У маляўнічай мясціне былой Віленшчыны — мястэчку Гярвяты на Астравеччыне — 19—20 чэрвеня сустрэліся беларускія і літоўскія гісторыкі. Час такой сустрэчы наспяваў даўно. Са спадчыны Вялікага княства Літоўскага чэрпаюць натхненне і гістарычную свядомасць абодва народы, але пра тое, што яно было і беларускай дзяржавай, масавая грамадская думка не ведала. Ініцыятарамі сустрэчы былі і ладзілі яе Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, БНФ «Адраджэнне», Саюдзіс, акадэмічныя інстытуты гісторыі дзвюх краін і астравецкія ўлады. З беларускага боку ўдзельнічалі дырэктар Скарынаўскага цэнтра Адам Мальдзіс, народныя дэпутаты Беларусі Зянон Пазняк і Алег Трусаў, прафесар Міхась Ткачоў, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі АНБ Міхась Біч і інш., сярод літоўскіх удзельнікаў былі старшыня Саюдзіса гісторык Юозас Тумяліс і дырэктар Інстытута гісторыі АН Літвы Антанас Тыла.

Удзельнікі абмяркоўвалі праблемныя пытанні гісторыі і метадалогіі даследавання Вялікага княства Літоўскага з мэтай вызначыць агульныя падыходы да некаторых прынцыповых палажэнняў. Удзельнікі, узгадніўшы пазіцыі, звярнулі ўвагу на такі метадалагічны фактар, як супольнасць дзяржаўнасці, дзяржаўнай свядомасці, дзяржаўных інтарэсаў і грамадзянскай ментальнасці ў ВКЛ. Гэты феномен з'яўляецца бясспрэчнай падставай навуковых падыходаў да вывучэння спадчыны ВКЛ.

Была адзначана культуралагічная і палітычная унікальнасць супольнай балта-славянскай дзяржавы, яе арганізацыйна-палітычнае адзінства.

Удзельнікі лічаць непрадуктыўным механічны перанос сучасных нацыянальных уяўленняў на дачыненні сіл і тэндэнцый у ВКЛ. Патрэбы гістарычнай навукі і існаванне дзвюх суверэнных дзяржаў — Рэспублікі Беларусь і Літоўскай Рэспублікі, прамых спадкаемцаў гісторыі ВКЛ — вымагаюць раскрыцця сутнасці супольнага дзяржаўнага ўтварэння, якое можна вызначыць з сённяшняга гледзішча як літоўска-беларускую або — раўназначна — беларуска-літоўскую дзяржаву, улічваючы пры гэтым важкі ўклад, які ў палітычнае і культурнае развіццё ВКЛ працяглы час уносіў украінскі народ.

Палажэнні гістарыяграфічных канцэпцый, якія вынікаюць з палітычных меркаванняў «трэціх сіл» і тэндэнцыйных ацэнак гісторыі ВКЛ, непрымальныя з навуковага пункту погляду.

Будучыня беларускага і літоўскага народаў і нашых дзяржаў неадлучная ад раскрыцця і аб'ектыўнай ацэнкі нашай мінуўшчыны.

Вырашана стварыць двухбаковую камісію гісторыкаў Літвы і Беларусі для вызначэння формаў далейшага супрацоўніцтва і ажыццяўлення канкрэтных прапаноў.

# Новае аб «Пагоні»

Гісторыю свайго нацыянальнага герба мы павінны ведаць дасканала. Аднак не толькі для абывацеляў многае, звязанае з мінулым аднаго з сімвалаў суверэннай Беларусі, пакрыта заслонай тайны. Дыскусіі аб «радаслоўнай» «Пагоні» не спыняюцца і сярод прафесіянальных даследчыкаў. Праліць святло на некаторыя са спрэчных пытанняў, відаць, дапамогуць унікальныя дакументы аб гісторыі герба, якія раней захоўваліся ў архівах Літвы.

— Мы ўжо заняліся іх перакладам, — гаворыць начальнік Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў Беларусі Аляксандр Міхальчанка. —Літоўскія калегі прадаставілі нам дакументы аб «Пагоні», сабраныя ў час існавання буржуазнай Літоўскай рэспублікі, урад якой у свой час звярнуўся да незалежных экспертаў з просьбай адказаць на пытанне, наколькі літоўскі гэты герб. Сёння пытанне, каму належыць герб — літоўцам або беларусам, — не стаіць. Але напісаць гісторыю нацыянальнага герба рэспублікі можам толькі разам.

С. КАЛІНКІНА,
кар. БЕЛТА.

# ПОШУК ІСЦІНЫ

На пасяджэнні рады Саюза пісьменнікаў Беларусі, якое адбылося ў аўторак, абмеркаваны пытанні, звязаныя з адносінамі рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі да Міжнароднай садружнасці пісьменніцкіх саюзаў, створанай на нядаўнім з'ездзе ў Маскве. З паведамленнямі аб яго рабоце выступілі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнак і старшыня праўлення Літфонду Беларусі Н. Пашкевіч. У гаворцы прынялі ўдзел А. Вярцінскі, В. Блакіт, І. Шамякін, У. Калеснік, А. Жалязоўскі, Б. Сачанка, І. Чыгрынаў, Л. Дайнека, І. Скарынкін, В. Дашкевіч, В. Рагойша, І. Чарота, А. Петрашкевіч, А. Дудараў, В. Каваленка, У. Някляеў і іншыя.

Разгледжаны таксама некаторыя пытанні дзейнасці Дома літаратара.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# Эталон прыстойнасці—дзяржава

Так здарылася, што Беларусь наша атрымала суверэнітэт — сама таго, мабыць, не чакаючы. Аднак, хочаш не хочаш, у нейкім сэнсе суверэнітэт сапраўды прадастаўлены — а гэта азначае перш-наперш адказнасць за сваю палітыку, у тым ліку палітыку эканамічную. «Союза нет», — з непрыхаванай пыхай заявіў спадар Ельцын на прэс-канферэнцыі ў Мінску ў адказ на пытанне, пастаўленае некалькі інача — ці збіраецца расейскае кіраўніцтва сплачваць даўгі былога Саюза, у прыватнасці, па Чарнобылю. Трэба адзначыць, што ў гэтым стагоддзі гэта не першы выпадак, калі маскоўская дзяржава заяўляе аб сваім неіснаванні, каб не сплачваць свае даўгі. Гэтым разам, праўда, падыход, так бы мовіць, дыферэнцыраваны: сплачваць будуць, але толькі тым краінам, якія ў Саюз не ўваходзілі (пры гэтым не забыўшыся вызначыць долю адказнасці іншых аскепкаў былога Саюза).

Ну, а такая «мелочь», як адказваць па абавязках, дадзеных уласным грамадзянам, такое маштабнамыслячае кіраўніцтва не абыходзіць зусім. Маю на ўвазе перш за ўсё кампенсацыю страт, якія панеслі ўкладчыкі дзяржаўнага банка ад інфляцыі, развязанай і раздзьмутай расейскай дзяржавай. Не, там аб гэтым не думаюць, бо адкуль жа тады браць рэсурсы для гадоўлі нуворышаў, праўда, большай часткай з ліку той жа самай партыйна-наменклатурнай мафіі.

Хай бы сабе так яно і было. якая наша справа да таго, што думаюць аб справядлівасці ў суседняй дзяржаве і ці маюць там нейкае ўяўленне аб гэтым

## Цені мінулага

Пахадзіў я ўчора па нашай сталіцы і, дальбог, не зразумеў, у якой дзяржаве я жыву. Амаль на ўсіх дзяржаўных установах, якія я бачыў, вісяць шыльды з надпісам, што гэта адносіцца альбо да СССР, альбо да БССР. Я не бачыў ніводнай абрэвіятуры РБ (Рэспубліка Беларусь), хоць прайшло ўжо дастаткова часу, каб такія надпісы з'явіліся. Вось вам прыклады: «Академия наук БССР», «Союз журналистов БССР, Минское областное отделение», «1-я стоматологическая поликлиника БССР», «Областной совет профсоюзов БССР» і г. д. І ўсюды герб БССР. Нават на Прывакзальнай плошчы, на высотным будынку, таксама вісіць стары герб БССР. Я думаю, што тут наглядна праяўляецца «исполнительность» нашых мясцовых уладаў да таго, што прымаецца Вярхоўным Саветам. Няўжо так і далей будзем жыць — на паперы РБ, а ў жыцці БССР.

А вазьміце назвы нашых вуліц — «Коммунистическая», «Ленинская», «Володарского», «Урицкого», «Советская», «К. Маркса» і г.д. Камусьці не хочацца мяняць гэтыя назвы... Я лічу, што ўсе гэтыя назвы, старыя гербы час ужо пакласці на музейныя паліцы, у запаснікі і пачаць жыць па-новаму, з новымі гербамі і новымі надпісамі.

**Мікалай НАВІЦКІ,**
**пенсіянер.**

г. Мінск.

## Ці буду беларусам?

### Маленькая споведзь

Нарадзіўся беларусам. Было вясковае жыццё вясковага хлапчука. Пасля вясковай сямігодкі пайшоў у Валожынскую сярэднюю школу, дзе выкладаліся асноўныя прадметы на рускай мове. І колькі смеху было ў класе, калі то адзін, то другі вясковы хлопец гаварылі то «гандаль», то «адзінка» (у класе былі галоўным чынам дзеці ваенных і мястэчковага начальства).

І пайшло, паехала: інстытут, горад, установы — усюды па-руску. Словам, асіміляцыя.

Няпроста бывае ў душы (ды і ў жыцці) тых, хто падарваў свае карані: у мяне асабіста нешта ўнутры пастаянна свярбела, дрынчэла.

І раптам хваля беларускага адраджэння зламала нейкую чужую спружыну ў маёй істоце. Так, зламала, але ніяк не можа яе выпрастаць, бо куды ні сунься — усё па-руску. А душа, слых хоча беларускага слова. А яго няма.

І веды пра краіну Беларусь, пра яе народ, у нас вельмі і вельмі недастатковыя (яны наогул не напрацаваны: болей вядома пра французаў і немцаў, чым пра беларусаў). Лічу, што вельмі мала робіцца, каб нашы тутэйшыя людзі адчулі сябе беларусамі. Сустракаюцца, праўда, нейкія кроплі беларускага, але вельмі мала. Бадай, толькі ў такіх, як я, у каго дзяцінства прайшло на аселіцах і выганах, каля сажалак і мачул, у тых, хто піў сырадой і лавіў гарачы матчын блін. Як добра было б прыцягнуць да справы адраджэння такіх. Болей бы стала нашага, беларускага.

Наогул, гэта вялікі боль беларуса: быць недалёка ад сваёй існасці, натуральнасці, сваіх каранёў, а калі хочаш дацягнуцца,то нешта замінае. І з гэтым трэба было б разабрацца, звярнуўшыся да душы беларуса, легалізаваць гэтае пачуццё Бацькаўшчыны, вывесці яго з падполля, з нейкіх казематаў і скляпенняў.

На сёння Адраджэнне да беларуса, народа не дайшло, а без народа многія высілкі могуць быць штучнымі і хілымі.

**Юзік ЖУРКЕВІЧ.**

г. Мінск.

## А вайсковыя гарадкі— будуюцца...

Нашы заканадаўчыя і выканаўчыя ўлады вельмі турбуюцца, каб нас накарміць. Думаю, што гэта не галоўнае. Спадар Бог вучыць нас гэтаму з часу нараджэння. А вось прывучыць працаваць, любіць сваю бацькаўшчыну, родную мову — трэба.

Я падзяляю думку, якую выказалі сябры ТБМ імя Ф. Скарыны пад рубрыкай «Як жывеш, Беларусь?» і спадар Алесь Карлюкевіч «Гадзюка, якая можа ўкусіць...» («ЛіМ» ад 29 мая 1992 г.). Асноўная пагроза для нацыянальнага Адраджэння зыходзіць не ад нашай інертнасці, як кажуць, нацыянальнага нігілізму, а ад усё ўзрастаючай насычанасці нашай тэрыторыі жыхарамі іншай нацыянальнасці. Прыбалты даўно зразумелі гэтую ісціну. Зараз на нашай тэрыторыі колькасць вайскоўцаў, скажам, на тысячу жыхароў самая вялікая ў былым Саюзе. Нягледзячы на гэта, з благаславення нашых кіраўнікоў будуюцца яшчэ вайсковыя гарадкі ў Лідзе, Слоніме, Барысаве і іншых гарадах для ўсталявання войск з Германіі, Польшчы і іншых дзяржаў. А колькі іх у адстаўцы, на пенсіі. Яны не выпрацоўваюць матэрыяльныя каштоўнасці. Іх трэба накарміць, жонак кадравых вайскоўцаў трэба ўладкаваць на працу, як правіла, уладкоўваюцца яны ў культурнай сферы, настаўнікамі ў школах. Зараз яны ўзмоцнена ўзяліся за прыватызацыю кватэр, будаўніцтва дач (гэтаму спрыяюць нашы ўлады). Як правіла, усе яны прадстаўнікі іншых рэспублік, адмоўна ставяцца да нашай культуры, мовы, справы нацыянальнага Адраджэння. А тыя, якія працягваюць службу на нашай тэрыторыі і адмаўляюцца ад прысягі на адданасць беларускаму народу, па сутнасці з'яўляюцца вайскоўцамі іншай дзяржавы. Правільна назвалі іх прыбалты — акупацыйнымі войскамі.

Толькі ў нашым Полацку для вайскоўцаў існуюць гарадкі Баравуха-1, Баравуха-2 і іншыя. Мы адчуваем іх адмоўнае стаўленне да ўсяго беларускага. Калі ўсё гэта будзе працягвацца і надалей, то беларусы не загавораць па-беларуску. Гэта відавочна. У такіх умовах аб самастойнасці і адраджэнні нацыянальнай самасвядомасці гаварыць цяжка.

**Іван ЯНУКОВІЧ.**

г. Полацк.

## Калі не мы самі, дык хто?

Ужо які год ад старонкі да старонкі чытаю вашу газету. Дзякуй за тое, што вы ёсць, што не звялася яшчэ мова наша і жыве радзіма.

Па волі лёсу я жыву далёка ад бацькаўшчыны, але мяне цікавіць усё, што звязана з ёй. Часта на вашых старонках чытаю лісты беларусаў з розных куткоў нашай зямлі і з-за мяжы. І дзіўная рэч, усе беларусы, што жывуць за межамі рэспублікі, сарамацяць беларусаў, якія жывуць на роднай бацькаўшчыне. Маўляў, нам здалёку відней, як вы апусціліся, не можаце пастаяць за нацыянальную годнасць, не маеце ўласнага гонару і г. д.

Дваццаць пяць гадоў я пражыла на Беларусі і ведаю, як нам заўсёды навязвалі рускую мову, прымушалі пагарджаць роднай. Якая патрэбна моц, каб вярнуць усё на «кругі свае»!

Я працую ў шматнацыянальнай школе. Ёсць сярод вучняў і беларусы, якія нарадзіліся і жывуць у Казахстане і многія ніколі не чулі роднай гаворкі. Мы вырашылі адкрыць сваё невялічкае аб'яднанне па вывучэнні мовы. Я ўжо спрабавала чытаць вершы Я. Купалы, Я. Коласа, апавяданні на беларускай мове. Іх слухаюць з задавальненнем дзеці ўсіх нацыянальнасцей, і многім зразумелы сэнс без перакладу. Так што, спадар з Сергіева-Пасаду («ЛіМ», № 18), не трэба цурацца таго, што вы беларус,



Фота У. ПАНАДЫ.

нават тады, калі вельмі няёмка. Хай усе ведаюць, што ёсць мова беларуская, была і будзе.

**Ларыса ГАПЕЕВА.**

ст. Нова-Урыцкае,
Рэспубліка Казахстан.

## Абознікі

**Наш лёс — цягнуцца у абозе**
**За тымі, што дужэй за нас,**
**І доўга лаяць у знямозе**
**Дарогу, вершнікаў і час.**
**І пазіраючы на зоры,**
**Без Бога ў сэрцы, без віны**
**Шукаць адзнаку у прасторы**
**На скон нясконачанай вайны.**
**Палын-трава буяе яра,**
**Кроў выцякае з-пад калёс...**
**Куды ідзём! Якая мара**
**Наперад рухае абоз!**
**Хрыпяць натомленыя коні.**
**Крычаць абознікі. Туман**
**Цячэ, як блёкат, у сутонне,**
**І сыч сіпіць, што рух — падман.**
**А ёсць жа іншыя дарогі,**
**Ды кажа вершнік: «Гэта — лёс!».**
**Яны — багі!! Яны — прарокі!!**
**І зноў рыпіць, паўзе абоз...**

**Ігар ПРАКАПОВІЧ.**

г. Паставы.

## Крыж у Левашове

З 8 мая тут, як і ў Курапатах, стаіць крыж, які паставілі беларускае і літоўскае таварыствы С.-Пецярбурга ў памін забітых землякоў. З амаль 40 тысяч пакутнікаў 1937—38 гг., расстраляных у Ленінградзе, некалькі сот, а мо і тысяч —ураджэнцы гэтых зямель. Былыя «шпіёны» і «ворагі народа» зараз рэабілітаваны, іх прозвішчы друкуюцца ў прэсе, і гэта дапамагло сваякам няшчасных даведацца пра месца захавання, а некаторым, як Аляксандр Усцінавіч Карызна з сястрою і Ірына Аляксандраўна Маркевіч-Вечар з Мінска, і прыехаць у Левашова. Вёў імпрэзу старшыня БГКТ Валянцін Грыцкевіч. Прагучалі малітвы праваслаўнага, каталіцкага і іудзейскага святароў. Крыж пакуты — з дуба, вянок — з калючага дроту, надпіс на тытанавых шыльдах: «Беларусь», «Letuva».

**Анатоль РАЗУМАЎ,**
**бібліёграф.**

Санкт-Пецярбург.

## Не ў пошуках ворага, а ісціны

Паважаны «ЛіМ», пішу да цябе, не маючы ніякай надзеі быць надрукаваным на тваіх старонках: ты, мне здаецца, занадта асцярожны і талерантны да актыўных непрыхільнікаў беларушчыны. Дарэчы, такімі непрыхільнікамі, а то і ворагамі беларушчыны могуць быць і самі беларусы, уключаючы, натуральна, і тых, якія нават і пішуць па-беларуску ці якімісь нацыянальнымі дзеячамі лічацца. Але не будзем шукаць ворагаў, лепш шукаць ісціну. І рабіць гэта станем і ў сувязі з расійскімі шавіністычнымі выбрыкамі «господина-товарища», як ён называе сябе сам, Уласава Г. І., з якім я, гаворачы дыпламатычнай мовай, маю гонар быць знаёмы. Дык вось, гэты самы «господин-товарищ» звяртаўся не толькі ў «ЛіМ» і Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, але і ў рэспубліканскае Міністэрства інфармацыі, у выдавецтва «Народная асвета» — у прыватнасці, да мяне з усё тою ж выдуманаю праблемаю: нешанаванне расійцаў. З'явілася ў яго і штосьці новае. А заключаецца яно ў тым, што, на яго думку, неабходна паўсюдна забараніць ужыванне слова «русіфікацыя». Да таго, што адказаў Уласаву «ЛіМ» (№ 16, № 21 за гэты год) і што адказаў раней асабіста я, сёння дадам наступнае. І тычыцца яно, вядома, не аднаго яго, а безлічы яму падобных, чыё імя — легіён.

Даўно заўважана, што літаральна ўсе этнасы, чым яны далей і фізічна і палітыка-адміністрацыйна адстаяць ад расійскай ментальнасці, тым лепш сябе пачуваюць, больш таго—мацней захоўваюцца з усімі сваімі прыродна-гістарычнымі асаблівасцямі, сваёй самабытнасцю. Вельмі добра гэта можна паназіраць на тых змяненнях, якія адбыліся і адбываюцца з народамі фіна-угорскай групы. Хіба ж можна параўноўваць жыццё, скажам, ханты і мансі з жыццём венграў; жыццё карэлаў, вепсаў, іжорцаў з жыццём фінаў ці жыццё мардвы, марыйцаў, комі, эрзі з жыццём нават эстонцаў? Тут, уласна кажучы, няма пра што і гаварыць. А калі глянуць у гісторыю, дык яна толькі пацвердзіць нашу выснову. Пра стан мардвы, напрыклад, сучасная паэзія распавядае так:

**Неба цёмнае, стопудовае;**
**Дзе ж ты дзелася, сінява?!**
**Ўся Мардовія замардована,**
**Замардована ўся мардва.**

Упэўнены, што пераважная большасць чытачоў «ЛіМа» (і не толькі «ЛіМа») амаль нічога не ведае пра угра-фінаў, якія знаходзяцца на ўнутранай тэрыторыі імперыі — ні пра іх колькасць, ні пра іх мову, гісторыю, культуру, мастацтва, літаратуру і г. д. Але хай толькі які-небудзь мардвін ці пярмяк (да назвы апошняга вялікадзяржаўнікі гулліва, дзеля ўласнай забавы дадавалі — «соленые уши») пра свае правы заявіць, як тут жа нехта пачне лямантаваць пра русафобства.

Сёння ўсе злачынствы, усю чарнуху звальваюць на аднаго Сталіна. Маўляў, гэта ён высылаў цэлыя народы. Хай так. Але ж «бацька народаў» даўно сканаў. А вось немцы Паволжа і цяпер не могуць вярнуцца дамоў. Не лепш, чым у паволжскіх немцаў, абстаяць справы ў татар Крыма. А хто і на якой мове паўднёвыя народы былой імперыі назваў «чуркамі»?

Вельмі добра, што народы Афганістана перамаглі маскоўскую камуністычную навалу. А каб жа не? Дык хадзілі б у Вярхоўны Савет (не меджліс) шураві Уласавы і патрабавалі б прыярытэтаў для «великого, могучего, свободного» перад мовамі пушту, таджыкаў, узбекаў, тэлугу і іншых — мовамі маджахедаў, каго раней з падачы маскоўскай прапаганды называлі душманамі.

Напрыканцы гэтай нататкі хачу дадаць, што і вольныя рускія людзі выказалі, праўда, своеасабліва, свае адносіны да імперскай палітыкі Расіі ў прымаўцы: «Гуляй, ребята, пока Москва не проведала» (зборнік У. Даля).

А адносна дыскусіі, якую прапануе Уласаў у сябе ў праектным інстытуце, можна сказаць адно: «Няма калі. Мы заняты справай Адраджэння Бацькаўшчыны — яе гісторыі, мовы і культуры, а Вам лепш бы задумацца і ўзяцца за ўласнае перавыхаванне. І няхай нам усім дапамагае Бог!»

**Яўген ГУЧОК,**
**старшы рэдактар выдавецтва**
**«Народная асвета».**

**АД РЭДАКЦЫІ. Мы ў нечым згодны з аўтарам ліста — у прыватнасці, з тым, як ён вызначае пазіцыю «ЛіМа» адносна «актыўных непрыхільнікаў беларушчыны». Аднак жа яны сталі такімі ў выніку шматгадовага імперскага гвалту над душой і розумам рускага чалавека — у царскія часы, і так званага «інтэрнацыянальнага выхавання» ў часы савецкія. Сапраўды, трэба шукаць не ворагаў, а ісціну, змагацца не з народамі і асобнымі іх прадстаўнікамі, а ЗА БЕЛАРУСАЎ. І ўвогуле ці варта «асцярожнасць і талерантнасць» лічыць недахопам? Мы ўжо ведаем, да чаго прыводзяць іх процілегласці...**

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ**

**Вострая гаворка, пачатая на нашых старонках Я. Шыраевым і ўраўнаважаная Н. Пашкевічам, бадай, нікога не пакіне абыякавым. Мы прывыклі ганарыцца Беларуссю-партызанкай. Вялікая Айчынная вайна дасюль была адзіным, што не падлягала перагляду. Як бачым, і гэты апошні козыр сацыялізму спрабуюць «пабіць» — раней невядомымі фактамі, новымі падыходамі.**

**Пра неабходнасць агульначалавечага погляду на вайну і пра звужанасць ідэалагічнай катэгорыі «патрыёт—здраднік» разважаў у нядаўняй гутарцы з Ю. Залоскам кандыдат гістарычных навук А. Літвін. Працяг тэмы — у нататках В. Акудовіча, якія мы друкуем сёння, як прынята казаць, у дыскусійным парадку.**

**Валянцін АКУДОВІЧ**

# Вялікая Айчынная ці Другая сусветная?

У дыскусіі, што разгарнулася на старонках «ЛіМа» (№ 14 за г. г.) паміж Я. Шыраевым і Н. Пашкевічам, спрэчка вялася хаця і пра досыць важныя, але, як на мой погляд, прыватныя моманты партызанкі. Убаку засталіся, ці ўзгадваліся толькі ўскосна, прынцыповыя пытанні гэтай з'явы і найперш наступнае: масавы партызанскі рух — штучна створаны прэцэдэнт ці натуральна абумоўлены факт? Паколькі гэтае пытанне ўтрымлівае ў сабе шмат аспектаў, паспрабуем вылучыць у ім аснову. Нашы вясковыя дзядзькі самахоць пацягнуліся ў лясы, ці наўмысна створаная сітуацыя справакавала іх хавацца ў гушчары і часам хапацца за стрэльбы? І яшчэ больш канкрэтна: партызанская вайна была нязмушаным памкненнем вольналюбівых і мужных беларусаў да вызвалення ад акупацыі ці такі выраз ёй надалі, зыходзячы з пэўных інтарэсаў?

Асабіста я схільны лічыць, што ідэя змагання з акупантамі не-беларускага паходжання. Як на маё разуменне, дык у праекцыі на беларусаў яна не мае гістарычна пацверджанага генезісу, прынамсі, не мела на той час, бо традыцыя барацьбы з іншаземцамі была перарвана для беларусаў у апакаліптычных войнах з Масковіяй другой паловы XVII стагоддзя. Яе пазнейшая як бы наяўнасць у фактах і лічбах спланавана звычайным ідэалагічным памкненнем вылучыць гераічную плынь у бытаванні беларускага народа і тым самым гераізаваць увесь народ. Паасобным фактам 1794, 1812, 1863, 1920 гадоў надаецца значэнне тэндэнцыі, што наўрад ці адпавядае рэальнасці.

Гераічнай бывае асоба, народ прынцыпова не-гераічны. Масавы збройны гераізм — аксюмарон. Калі б гэтая з'ява існавала папраўдзе, а не была толькі рытарычнай фігурай, то народы ўжо даўно павыбівалі б адзін аднаго ўшчэнт. Масавы гераізм з'ява больш небяспечная, чым адсутнасць гераізму ўвогуле. Кожная праява масавага гераізму павінна разглядацца як сімптом смяртэльнай хваробы, за якой страта народам важнейшага з інстынктаў — інстынкту самазахавання.

Невыпадкова ў мове беларускага народа няма слова, якое акрэслівала б гэтую тэндэнцыю, як, да прыкладу, «алія» (вяртанне на бацькаўшчыну) —у габрэяў. Больш таго, нават асобныя праявы гэтай тэндэнцыі не абапіраюцца на ўстойлівыя лексемы, а кніжнае, з ідэалагічнай лексікі «герой» у жывым вымаўленні гучыць няйнакш, як іранічна.

Няма слова — няма і з'явы. У лакальным змесце падобнае сцвярджэнне павінна ўспрымацца як спрошчанае ці авантурнае. Але калі мы азіраем шырокі гістарычны працяг і, вызначыўшы ў ім нейкую натуральна абумоўленую заканамернасць, не можам ёй падшукаць адпаведнага слова ў мове народа, то ў нас з'яўляюцца сур'ёзныя падставы запытацца: «а ці быў хлопчык?» Бо не факт і лічба, а ўтаймаванне факта і лічбы ў слове выяўляе іх сапраўдны сэнс альбо ягоную адсутнасць.

Адсюль вынікае наступнае пытанне: ці з'яўляецца імкненне да волі адметнай рысай беларусаў? Для рамантыка нават пастанова гэтага пытання, напэўна, гучыць абразліва. Але чалавецтва ведае не шмат народаў, у якіх гэтая якасць дамінуе. А, скажам, для Усходу катэгорыя волі, у сэнсе свабоды, як яе разумее еўрапейская ментальнасць, увогуле адсутнічае... Толькі мы гэтую тэму пакінем, і вернемся да вылучанай з яе канкрэтнай тэзы: ідэя ўзброенага змагання з нямецкай акупацыяй не-беларускага паходжання.

Яшчэ да апошняга падзелу Рэчы Паспалітай, вынішчаная войнамі з Масковіяй, наша Бацькаўшчына ўжо была, у нейкім сэнсе, акупаваная Польшчай. А далей пацягнулася эпоха перманентнай акупацыі: шведы, французы, немцы, палякі, зноў немцы, а напачатку, у прамежку і потым—расейцы, расейцы, расейцы. Паднявольны стан, стан акупацыі зрабіўся натуральным для нас, і з цягам часу беларускі народ ужыўся з прыгнётам, як ужываецца чалавек з ціскам атмасферы.

Зноў жа звернем увагу, як феномен бесперапыннага прыгнёту адбіўся ў мове (асабліва выразна гэта падкрэсліваецца ў мове заходніх беларусаў). Вызначаючы час той ці іншай падзеі, яны звычайна кажуць: за палякамі, за немцамі, за саветамі. Мова народа ўжо не ўтрымлівае катэгорый самастойнага бытавання на сваёй зямлі. Праўда, у гэтым «за», магчыма, хаваецца стоенае ў глыбіні пачуццё годнасці. Не пабітыя, не падняволеныя, а проста наступныя за кімсьці. Але пры самым вялікім жаданні тут немагчыма адшукаць інтанацыю змагання, барацьбы, касінерства.

Дык адкуль тады ідэя збройнага супраціўлення апошняй нямецкай акупацыі? З чаго раптам гэтая ідэя апанавала ўсім народам, які даволі абыякава трываў папярэднія прышэсці чужынцаў, хаця б тых жа самых немцаў яшчэ дваццаць год назад?

«Масавы» характар барацьбы амаль напэўна вызначыўся тэхнічнай рэвалюцыяй у сродках камунікацыі і знішчэння чалавека. А сама ідэя жорсткага непрыняцця акупацыі, безумоўна, прыйшла з Расеі. Для расейцаў, якія ад захопу польска-беларускімі войскамі Масквы на самым пачатку XVII стагоддзя зведалі толькі паспешлівы «візіт» Напалеона, чужынец са зброяй у руках быў нечым нязвыклым, дысгарманічным, варожым у той апошняй меры, якая вымагала змагання да скону. Тут яшчэ трэба адзначыць, што падобнае стаўленне да акупацыі вынікала не толькі з ментальнасці расейскага чалавека, але і з яго ўсведамлення моцы сваёй дзяржавы, якая можа і павінна перамагчы кожнага ворага. А з адваротнага боку — з адмаўленнем дзяржавай якой-кольвек каштоўнасці за жыццём асобнага чалавека.

Вось гэтае разуменне акупацыі і было «вменено» пануючай расейскай ментальнасцю пабраным Расеяй народам, і беларускаму таксама. Адсюль і збройнае змаганне, адсюль і акцэнт на знішчэнне ворага, а не на ратаванне чалавека, адсюль—перамога альбо смерць.

Аднак тое, што для Расеі было Вялікай Айчыннай вайной, для нас — самазнішчэннем. Інспіраваная партызанка з аднаго боку правакавала немцаў на дадатковую «пазапланавую» жорсткасць, з другога, што, можа, яшчэ горш, саміх беларусаў да ненатуральнага ім, непатрэбнага і ўрэшце згубнага змагання з акупацыяй.

Мы павінны будзем некалі ўсвядоміць, што для нас і для Расеі гэта былі дзве зусім розныя вайны, і выпрацаваць сваю сістэму ацэнак тых падзей, зыходзячы са свайго разумення каштоўнасцей жыцця. Але гэта справа будучага, а пакуль звернем увагу вось на што... Нягледзячы на магутны, татальны ўціск, беларускі **народ** (падкрэслім яшчэ раз — **народ**, а не пэўныя групоўкі насельніцтва) не прыняў партызанку. Так — не прыняў. І гэта з улікам усіх лічбаў і фактаў, усёй «сацыялогіі» і ўсёй безлічы адлюстраванняў барацьбы з ворагам у мастацтве і публіцыстыцы.

Калі б гэта было папраўдзе, калі б папраўдзе **ўвесь народ** узняўся на змаганне з акупацыяй, гэта азначала б толькі адно — інстынкт самазахавання этнасу выпетрыўся да тых рэшткаў, за якімі ўжо нічога няма.

Партызанку зладзілі былыя савецкія функцыянеры, падпольныя райкомы, гаркамы, абкамы, дыверсійныя групы, рэйдавыя брыгады, акружэнцы, больш за дзвесце атрадаў НКУС... І ўтрымлівалася яна ідэалагічна, арганізацыйна і матэрыяльна за кошт Вялікай Зямлі. А для самога беларускага народа партызанка была чужароднай, марнай і пераважна варожай справай. Яна несла небяспеку смерці нават у большай ступені, чым акупацыя, бо гэтая небяспека была не гіпатэтычнай, а непасрэднай і вынікала як з карных аперацый пасля партызанскіх актаў, так і з сутнасці самой партызанкі.

Фактаў варожасці да партызанкі, не кажучы ўжо пра абыякавасць да яе, дакументамі, літаратурай, мастацтвам назапашана таксама даволі, аднак яны нікім не сістэматызаваліся і на іх ніколі не рабіўся акцэнт. Толькі і на гэтых, «адмоўных» фактах мы не будзем спыняцца, а звернем увагу на скептычную і нават здзеклівую афарбоўку слова «партызан» у жывым вымаўленні. І на захадзе Беларусі (Гродзеншчына) і на ўсходзе (Віцебшчына — партызанскі край) у непасрэднай, незаідэалагізаванай гаворцы ў слове «партызан» гучыць што заўгодна, ад з'едлівага скепсісу да панылай абыякавасці, толькі не «беларускія сыны». (Іранічна-паблажлівае «Маўчыць, як партызан на допыце», можа, вышэйшая мяжа станоўчай адзнакі, усе астатнія значна ніжэй). За нешматлікімі, асобнымі **фактамі**, народная свядомасць адраклася партызанкі, і таму нам не знайсці паважлівых, удзячных, пазначаных гонарам за мужную дзею інтанацый у семантычнай афарбоўцы ўсяго комплексу слоў, якія яе вызначаюць.

Ні з пункту гледжання сацыяльна-палітычнага (якое-такое вялікае шчасце яны мелі за саветамі), ні з пункту гледжання натуральнага памкнення зберагчы сябе, сям'ю, род — ідэя змагання з акупацыяй не магла быць успрынята народам, як жыццёвая неабходнасць. І яшчэ. У масавай народнай свядомасці воля — не абстрактная катэгорыя, яна мае выразна акрэслены духоўна-сацыяльны абрыс. Калі мае... На той час беларусы так доўга не карысталіся воляй, што наўрад ці ведалі яе сэнс. А змагацца ні за што, толькі сабе на згубу, не будзе ні адзін народ.

Дык ці была для нас гэтая вайна Вялікай Айчыннай? Магчыма, падобнае пытанне нетактоўна ставіць перад тым канкрэтным беларусам, які лічыў тады і застаецца перакананым цяпер, што змагаўся з фашызмам у Вялікай Айчыннай вайне. Аднак яшчэ больш нетактоўна і нават абразліва яно гучыць у адносінах да ўсяго народа, нацыі, якую прымусілі самазнішчацца, змагаючыся на баку адной імперыі супраць другой. Тут трэба дадаць яшчэ вось што. Крытэрый вайны як Вялікай Айчыннай, значна звужае і проста-такі нахабна спрошчвае гэтую неверагодна трагічную падзею, зводзячы яе да аднамернага супрацьдзеяння: «нашы» — «немцы». І ў дадатак надае вайне высакародны сэнс, якога ў яе не было і быць не магло.

Там, дзе вайна, там няма высакародства. У бруд і кроў упэцкваюцца ўсе. Там, дзе вайна, там няма герояў і антыгерояў, ёсць толькі пакутнікі і ахвяры. І калі наша свядомасць яшчэ не можа абысціся без ідэі гераічнага на вайне, то няхай паспрабуе перанесці сваё ўяўленне аб гераічным на годнае пакутніцтва ці самаахвярнасць.

Спробы вылучыць з вайны ў якасці станоўчага прыкладу той ці іншы яе элемент — інтэлектуальная прафанацыя. Ніякі грамадскі інстытут не можа быць больш маральны за маральнасць таго часу, таго грамадскага ладу і стану, у якім ён існуе. Ён можа дэкляраваць якія заўгодна маральныя пастулаты, абапірацца на якія заўгодна высакародныя прынцыпы, але дзейнічаць будзе на тых, якія выснаваны тагачасным жыццём. Этычны кодэкс хрысціянства застаецца нязменным з часоў апостала Паўла, а сама царква ў розную пару бытавання і рабавала, і забівала, і здраджвала сабе і богу, адным словам, падпарадкоўвалася этычнаму пульсу рэальнага жыцця. Больш ці менш маральнай можа быць асоба, але не грамадскі інстытут, не тая ці іншая грамадска-палітычная супольнасць. У вайну ўсе некага забівалі. Забівалі немцы, забівалі саветы, забівалі калабаранты, забівалі партызаны. Якое з забойстваў лічыць маральным, а якое амаральным? І што значыць увогуле маральна апраўданае забойства?

Акупант і той, каго ён акупаваў, нкусавец і партызан, калабарант і паліцай — усе яны выклятыя лёсам, усе яны вартыя жалю. Магчыма, такі ўтапічна-хрысціянскі падыход да праблемы выкліча пэўныя пярэчанні, бо ў маральнай тоеснасці паміж забойцам і яго ахвярай праглядвае метафізічны здзек з жывога жыцця. Але на вайне няма забойцаў ці наадварот — на вайне ўсе забойцы. Усё залежыць ад тых абставін, у якія патрапіў чалавек. Той, хто апынуўся там, дзе даводзілася забіваць, — забіваў. І ўся розніца паміж грэшным і нявінным у тым, што аднаму з іх пашанцавала не патрапіць туды, дзе ён вымушаны быў забіваць, а другому не пашанцавала і ён забіваў (магчыма, таго, каму пашанцавала не забіваць). Скажыце, кім стаўся для германцаў той беларус, які, пеpажыўшы акупацыю і партызанку, быў завербаваны ў савецкае войска і страляў немцаў на іхняй зямлі, бурыў ушчэнт Кёнігсберг і Берлін? Натуральна, што для германцаў ён быў акупантам, ворагам, забойцам. Гэта мы яго вызваленчую ролю ў Еўропе пазначылі паганскім словазлучэннем «святая помста». Помста не бывае святой, прынамсі, яна перастала быць ёю з таго часу, як Ісус узышоў на Галгофу.

Вайна — гэта паганства, вайна — гэта вяртанне чалавека ў задушлівае лона пракаветнага бога, жорсткага і памыслівага. Як быццам не было дзвюх тысяч год цярплівага гадавання этычнага імператыва, як быццам мы зноў вярнуліся ў дагісторыю.

**«Партызаны, партызаны,**
**Беларускія сыны!**
**За няволю, за кайданы**
**Рэжце гітлерцаў паганых**
**Каб не ўскрэслі век яны».**

. . . . . . . . . . . . . . . .

**«Выразайце людаедаў**
**Каб не стала іх і следу».**

. . . . . . . . . . . . . . . .

**«Рыйце загадзя магілы**
**Вырывайце з жывых жылы,**
**Кроў за кроў, а смерць за смерць».**

Ухваляючы збройны гераізм пераможцаў ці пераможаных, партызан ці калабарантаў, мы молімся цьмянаму богу з пажаднымі да крыві вуснамі. І мяне ўсур'ёз непакоіць, што цяпер, пачынаючы інакш укладаць гісторыю вайны і партызанкі, мы пойдзем ранейшым шляхам яе гераізацыі, толькі зменім прывідаў на пастаментах. Прыклад таму дыскусія паміж Я. Шыраевым і Н. Пашкевічам.

Пры ўсёй знешняй супярэчнасці сутнасна пазіцыі Я. Шыраева і Н. Пашкевіча мала чым адрозніваюцца. Адзін кажа, што на сонцы ёсць плямы, другі — няма (хаця і не вельмі ўпэўнена).

А можа, няма сонца, а толькі адна чорная пляма? Запытайцеся ў таго «кожнага чацвёртага»...

Асабіста я перакананы, што трэба перагледзець усю фактаграфію вайны ў дачыненнях да нашае Бацькаўшчыны і канцэптуальна вызначыць ролю і месца Беларусі ў Другой сусветнай вайне, не забыўшыся на той яе аспект, які да гэтага пазначалі, як Вялікая Айчынная. Але калі мы праробім гэтую работу, зыходзячы з прасталінейнай патрыятычнай ідэалогіі, з архаічна паганскай рамантыкі, то значыць загубім усю справу і не скарыстаем яшчэ адну магчымасць замацаваць у сваёй свядомасці і свядомасці іншых народаў гуманную сутнасць беларускага шляху.

быў чалавек Сасок: за сваю шкоду, хоць і з прыпадку зробленую, нікому не даруе, хоць залатоўку возьме, а сам, бывала, уночы конна сядзе і пайшоў чужыя межы спасываць; каменне з свайго поля дык усё, бывала, цягае на чужое. Эй, нядобры быў чалавек: як пазыча суседу рубель, то яму трэба дзень араць, дзень касіць, дзень жаць, кожны дзень па грошу працэнту аддаць, а рубель рублём. Пазыча табе бульбы на насенне—то ўжо сей напалавіну і насенне насеннем аддай— і ўсё гэтак! Купе, бывала, у скарбовым лесе крадзеную калоду, такую, што парай коні як зрушыць, а сам па яе не паедзе — суседаў пашле: удасца — добра, а зловяць — яны прапалі! От які быў Бартак! Бывала, шапкі здымаем перад ім, як прад панам, бо ў яго і пісар, і старшына —прыяцелі, з акцызнікам у мястэчку, як з кумам, вітаецца, дык як жа тут шапкі не зняць? А можа, думалі, і ён старшынёй будзе?.. Суддзёй ужо і тагды быў. Даўно, праўда, усё гэта было, але было!»

Гэтак проста, але вельмі характарыстычна зацікаўлівае Багушэвіч нас галоўнай дзейнай асобай — Барткам Саском. Тым не менш апавяданне атрымала назву з мянушкі дзіцяткі, якое народзіцца з шлюбу Бартка з пекнай паненкай, якая, бывала, нічагусенькі не рабіла, толькі сабе бегала ды выспеўвала: «тра-ля-ля, тра-ля-ля!»

Кніжачка пабачыла свет недзе ў траўні 1892 года, а можа, і трошкі раней. Пра гэта сведчыць і згадка ў Багушэвічавым лісце да Я. Карловіча за 22 мая (3 чэрвеня): «Траляля» буду старацца дастаць». На тытульным аркушы кніжачкі пазначана: «Tralalonaczka. Kraków. Drukowaй swaim kostam Wl. L. Anczyc i S-ka, 1892».

Выхад кніжкі-апавядання быў заўважаны друкам. У 24 нумары часопіса «Край» за 12 (24) чэрвеня 1892 года ў раздзеле «Новыя кнігі» змешчаны водгук. Але які? Пераказаўшы змест, ананімны рэцэнзент здзіўлена пытаўся: «Невядомы аўтар па-беларуску апавядае гісторыю Барткі Саска, які ён «цяжкі быў чалавек»... Што за мэта ў гэтай кніжачкі і для каго прызначана? — *цяжка адгадаць*». Магчыма, тады і сапраўды некаторым цяжка было адказаць на пытанне, якая мэта выдання гэтай кніжкі. А сёння мы ведаем — стваралася новая *беларуская літаратура, яе проза*, і ля вытокаў яе стаяў народны адвакат, абаронца Ф. Багушэвіч.

Кніжачка выйшла ананімна. Гэтага, мабыць, патрабаваў час, абставіны. Але аўтарства не закінулася. Яно пазначана ў розных крыніцах. Чыёйсьці рукой напісана і на кракаўскім пасобніку. Ёсць і яшчэ адзін дакумент, які пацвярджае гэтае аўтарства. У 1893 годзе друкарня Анчыца нагадала Багушэвічу, што пара разлічыцца за друкаванне кніжачкі. На гэта пісьменнік адказаў, што рахунак уладкуе Я. Карловіч. Другі зварот ужо быў на імя Я. Карловіча. «Таксама напамінаем аб рахунку аўтара «Траляляначкі» (адваката з Вільні)».

Апрача Ягелонскай, кніжка ёсць і ў Нацыянальнай *варшаўскай бібліятэцы. На жаль*, у беларускіх бібліятэках яе няма, нават ксеракопіі. Толькі мікрафільм. Цяпер цяжка сказаць, чаму не дайшла да Беларусі Багушэвічава кніжка-апавяданне. Насцярожваюць і паэтавы словы: «Траляля» пастараюся дастаць!» Чаму гэта аўтар мусіць даставаць сваю кніжку, якая толькі-толькі выйшла з друку? То, можа, перавыдаць яе факсімільна? Хай бы беларускі чытач пачытаў апавяданне так, як яго напісаў аўтар,— лацінкаю. Усё ж кірыліца, як бы мы ні стараліся, не перадае ўсіх асаблівасцяў Багушэвічавага пісьма, не дае ўяўлення арыгінала.

Сёлета сто гадоў з часу выхаду першай Багушэвічавай кніжкі-апавядання. Падзея не Бог ведае якая, але ўсё ж падзея, калі на яе глядзець у гістарычным стасунку, у стасунку развіцця нашай літаратуры. Факсімільнае выданне гэтай кніжачкі мо зрабіла б больш шчаслівым лёс першага празаічнага твора Ф. Багушэвіча.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

---

начасова і шчыра-ўхвальнае, калі Майстра гаворыць пра тых, чый талент паважае. Вось выступленне В. Быкава ў лютым 1989 года на вечары Рыгора Барадуліна, прысвечаным яго 50-годдзю: «Барадулін —гэта чараўнік. Найперш —чараўнік паэтычнай стыхіі, якая жыве ў ім, мабыць, з дня яго нараджэння, і які сам жыве ў ёй, вольна і радасна, як жыве птушка ў палёце, рыба ў вадзе, самаадданая жанчына ў каханні. Паэзія для Барадуліна — не варштат, не тачка, не прафесія ўрэшце. Паэзія для яго — бажэсцвенная стыхія, у якой ён нявольнік і ўладар адначасна. Віртуоз і маэстра! Вобразы ягонай паэзіі, гнуткія і хлёсткія, нечаканыя і ўтончаныя, — грацыёзныя стужкі яго бязмежнай фантазіі і яго думкі—афарыстычнай і парадаксальнай, мужнай і чалавечнай».

Дзве першыя публікацыі з кнігі. Захацелася запыніцца на іх па той простай прычыне, бо з іх бачна і пазіцыя В. Быкава, і яго разуменне літаратуры як з'явы штодзённасці, у якой на *першы план* ставіцца талент і толькі талент, і яго заўсёдная здатнасць і жаданне выказацца там, дзе маўчаць проста нельга. Наступныя матэрыялы красамоўна пацвярджаюць гэта.

Вось артыкул, які быў змешчаны летась на старонках часопіса «*Родина*». Нумар часопіса быў прысвечаны другой сусветнай вайне. В. Быкаў у артыкуле рэзка адмоўна сказаў пра работу паліторганаў...

Вось выступленні, артыкулы, інтэрв'ю, у якіх балючая праўда пра сталінізм, пра ягоныя ахвяры, пра шматлікія нашы Курапаты, пра адказнасць камуністычнай партыі за генацыд, што праводзіўся супраць уласнага народа.

Бывае, што пачуццё болю, безвыходнасці бярэ верх, і тады споведзь нечакана набывае ноткі песімізму, адчаю: «Маё пакаленне — гэта пакаленне няшчасных людзей. Яно не мела шчасця ў мінулым і, *мабыць, будзе пазбаўлена* яго ў бліжэйшай будучыні. Гэта пакаленне шкадобных людзей. Людзей, абдзеленых Богам і ў значнай меры—самімі сабой».

У кнізе прыводзіцца і тэкст лістоўкі, напісанай В. Быкавым 19 жніўня 1991 года, якую распаўсюджвалі «Московские новости»: «Незалежна ад таго, чым кончыцца схватка, тыя нямногія з ваенных — салдаты, афіцэры і генералы, якія сталі сёння ля Расійскага Белага дома для яго абароны, на нашых вачах паймення ўпісваюць сябе ў гісторыю».

Сярод іншых матэрыялаў — выступленне В. Быкава на рымскім кангрэсе літаратараў, што праходзіў у кастрычніку 1990 года. Тады, памятаецца, у краіне зноў пачаўся наступ на галоснасць, на дэмакратыю. У чым жа бачыў Васіль Уладзіміравіч найпершую задачу? «Відавочна, *трэба пачынаць з малога*: паспрабаваць абудзіць у сабе сумленне як першасны элемент маральнасці. Без карыслівасці, без эгаізму, без хітрасці ўпусціць у душу нейкую частку дабрыні і цярпімасці. Хоць бы да свайго бліжняга, да сабрата-пісьменніка. Нават калі ён думае і піша інакш, чым ты, калі ён разумнейшы за цябе ці, *тым больш, калі менш разумны*. Калі ён іншай крыві і не можа ганарыцца сваёй прыналежнасцю да вялікага народа. А, уявім сабе, належыць да малога ці малалікага. Сцішыць свой выхаваны дзесяцігоддзямі ўсёненавісніцкі спрыт, зірнуць адзін аднаму ў вочы і, магчыма, паспрабаваць засаромецца. Усё ж такі сорам больш варты *ўвагі, чым нянавісць*».

Абуджэнне сумлення... Ці можа быць больш высакародная і ўдзячная справа?! Гэтым жаданнем і прасякнута новая кніга В. Быкава, як і ўся яго творчасць і ўсё яго жыццё.

**А. М.**

---

## Віншуем!



# РАДАСЦЬ БЛІСКАВІЦЫ

## Давіду СІМАНОВІЧУ—60

З універсітэцкіх гадоў памятаю невысокага, пышначупрыннага паэта, які напаўспяваў свае вершы і ў чытальнае зале, і ў аўдыторыі, і ва універсітэцкім скверыку, дзе абавязковая бетонная скульптура была не з абавязковым вяслом, а з каменным мячыкам. Чытаў паэт свае вершы пераважна дзяўчатам, пры гэтым нязменна грыз дужкі сваіх акуляраў. Акуляры, здавалася мне тады, надаюць паэту большае паважнасці.

Усіх нас, хто таксама грашыў вершыкамі, уразіла незвычайная на памяці нашае падзея— у «Новом мире» ў 1955 годзе з'явіліся вершы Давіда Сімановіча. Іх надрукаваў ці, як прынята было казаць, даў Канстанцін Сіманаў, галоўны рэдактар паважанага ўсімі часопіса. Так пачынаўся паэт Давід Сімановіч. Пасля былі зборнікі вершаў дарослым і дзецям. Пасля настаўнічаў у Крынках Лёзненскага раёна, дзе, дарэчы, вучыў таленавіцейшага беларускага паэта, што заўчасна адышоў ад жыцця, Уладзіміра Лісіцына. А Лёзненшчына звязана з імем Марка Шагала, з каранямі вялікага віцябляніна, які шмат значыў у жыцці і ў творчасці Давіда Сімановіча. Ужо ў так званыя перабудовачныя дні паспяхова скончыў Давід Сімановіч барацьбу за вяртанне майстра, за аднаўленне добрага імя геніяльнага мастака XX стагоддзя, выдатнага паэта.

Часта, і заўсягды безвынікова, ідуць спрэчкі вакол таго, ці павінен паэт быць прафесіяналам ці недзе працаваць, быць на службе, пры пасадзе. Сусветная і айчынная практыка паказала, што паэтам застаецца пры любых абставінах толькі той, хто ім нарадзіўся, а рэшта — імітатарамі, падзёншчыкамі, рамеснікамі. Дадаткова пры падобных спрэчках прыводзіцца і такі важкі аргумент, што прафесія дае матэрыял, тэмы, вобразы. Але мяноўна тут у паэта ёсць небяспека ўваліцца ў багну праблемаў, якія важныя настаўніку ці журналісту, але пярэчаць паэзіі. А што канкрэтнага дала паэту Давіду Сімановічу праца настаўніка, журналіста, праца на тэлебачанні? З аднаго боку, абвостраны позірк на жыццё, на жыццёвыя драбязінкі, на праблемы хлеба надзённага і духоўнага, а з другога — жаданне ўсё зарыфмаваць, абавязкова вершавана напісаць пра кожную паездку, пра сустрэчу кожную. У першым выпадку маем сапраўдныя вершы, тонкія, усхваляваныя, здзіўленыя, у другім — замалёўкі ў рыфму. Спяшаюся растлумачыць, што апошніх у Давіда Сімановіча не гэтак і шмат, што напісаў ён іх не болей і не меней, чым ягоныя аднагодкі, калегі па пяры. Паэт — заўсягды сын свайго часу, сваёй эпохі, і рэдкая птушка паэзіі даляціць да сярэдзіны Дняпра вякоў наступных, эпохаў немінучых.

Адметная рыса паэзіі Давіда Сімановіча — радасць, радасць і яшчэ раз радасць. Радасць, што выжыў у чорныя часіны, радасць, што сустрэў сапраўдных сяброў, радасць, што жыве на зямлі. На злосць усяму чорнаму і агіднаму! І няпраўда, што ў радасці затуманены позірк. Ён выяўны, ён дакладны, ён глыбокі.

Радасць умее:

**слушать доброго дождя**
**необязательные речи.**

Радасць бачыць:

**И ударилось яблоко оземь —**
**и земля закачалась сильней.**
**Вышла осень из теплых сеней,**
**шкуру яркую сбросила осень,**
**И нагая стоит.**

Радасць уважлівая і дома, і ў гасцях. Гэта яна прыкмячае, што грузінскі дом

**всегда обвитый птичьим**
**лепетом**
**и виноградною лозой.**

Радасць заўсягды безабаронная і чуйная да гора. Гэта яна не можа забыцца,

**как наши мастера уходят,**
**на нас остановив глаза.**

Ды адкуль з'явіўся здзіўлены і закаханы ў жыццё паэт Давід Сімановіч, не з іншае ж планеты? Вось як ён кажа пра сябе ўжо, так бы мовіць, у анкетнай прозе: «На беразе Прыпяці ў Нароўлі я нарадзіўся ў 1932 годзе. Тры мовы — руская, беларуская, яўрэйская (ідыш) — гучалі вакол мяне і ўвайшлі ў мяне. На іх мовілі *знаёмыя* і суседзі, бацькі мае, перамешваючы словы ўсіх трох моваў і не надаючы гэтаму ніякага значэння.

З тых дзён я памятаю арышт бацькі і ягонае вяртанне. Памятаю першы клас і першы дзень вайны...»

І невыпадкова ў 1952 годзе ў традыцыйным «Вершы пра мастака Левітана» паэт-пачатковец падспудна адчуваў, што трэба неяк напісаць пра жахлівыя часіны сталіншчыны:

**Не скоро в преданье уйдет**
**Владимирка — ссыльных**
**дорога.**

У сталага паэта Давіда Сімановіча ў хрушчоўскую часовую адлігу праб'юцца з-пад плітаў маўчання і страху словы гнеўныя і дакладныя, словы пра бацьку, пра бацькавых сяброў.

У вершах Давіда Сімановіча жыве маленства:

**В пятницу у крылечка**
**я порхаю, как стриж.**
**В пятницу ставится свечка,**
**в пятницу славится фиш.**
**В пятницу бабкин клекот,**
**молитвы ее, как сны.**
**Все это — так далеко,**
**все это— до войны.**

У вершах Давіда Сімановіча жыве Палессе — зямля ягонага маленства, ды штогод робіцца

**Все меньше вокруг природы,**
**все больше вокруг среды.**

Як цяжка было паэту пісаць вершы, прысвечаныя «памяці палескіх вёсак, што загінулі ў чарнобыльскае катастрофе», звяртаючыся да вёсак гэтых, называць «атамныя Хатыні нашыя». Вайна з маленства, маленства з вайны. Як рытуальнае галашэнне па нябожчыку гучаць радкі:

**Вас хороним порой осенней:**
**хаты зарыли, с землей сровняли.**
**И только деревья —**
**черные тени**
**над братской могилой**
**стояли в печали.**

Як цень звугалелае галінкі, праступае, гучыць неназваная традыцыйная рыфма: «деревья—деревня».

Усю паэзію Давіда Сімановіча можна назваць, цытуючы яго ж самога, радасцю бліскавіцы. Бліскавіца, асляпляючы, сама не слепне, усё бачыць, вырываючы з цемры забыцця ўсё самае важнае, з чаго і складаецца жыццё — mater dolorosa паэзіі.

**Рыгор БАРАДУЛІН.**

---

**Давід СІМАНОВІЧ**

## ДОМ НАД РАКОЙ

**Дом стаяў над ракою, сярод**
**лазняка.**
**У пакоях і пуста і сыра.**
**Ноччу я прачынаўся заўжды ад**
**гудка,**
**што даносіўся зычна з буксіра.**

**Выбягаў і глядзеў, як агні**
**мільгацяць**
**І як баржы плывуць у знямозе.**
**І здавалася мне, што буксір**
**хоча зваць,**
**каб памог я яму у дарозе...**

**«Памажы! Хоць бы трошкі, да**
**вежы вунь той...**
**Да крутога таго павароту...»**
**Рэха голас хавала за соннай**
**ракой,**
**рэха ціхла паволі, употай.**

**І не змог я пайсці. Цемень зноў**
**на дварэ.**
***Не заснуць мне з-за дум і***
***трывогі:***
**«Як там сёння, што робяць**
**былыя сябры,**
**Мо чакаюць маёй дапамогі?»**

●

**Каля крыніц сцюдзёных**
**цёплая станцыя Крынкі,**
**дзе пелі так натхнёна**
**юнацтва майго скрыпкі.**

**Там мне дала Айчына**
***сваё благаславенне,***
**чатыры гады пражыў я,**
**нібы адно імгненне.**

**І на зямлі вялікай**
**свеціць заўжды натхнёна**
**цёплая станцыя Крынкі**
**каля крыніц сцюдзёных.**

## РОДНАМУ ГОРАДУ

**То малады, а то былінны —**
**твой твар заўжды перада мною,**
**парэзаны, нібы маршчынамі,**
**Лучосай, Віцьбай і Дзвіною.**

**То зімні ён, то ён вясновы**
**з лятучай ратушай прыгожай.**
**Твой твар аж тысячагадовы,**
**і ганарыцца ўсе ім можам.**

**Ды не прывык да захапленняў,**
**разважлівы ты і прыветны,**
**перад вачыма пакаленняў**
**твой твар адзіны і прыкметны.**

## ЧУРЛЁНІС

**Сярод зорак і чаромух,**
**паміж небам і зямлёй,**
**усміхаецца Чурлёніс**
**ўсмешкай добраю сваёй.**

**Ці то вечар, ці то золак,**
**не мастак ён тут, а бог.**
**Да яго ляціць анёлак —**
**белакрылы матылёк.**

**І ўсеўся на малюнак —**
**прытаіўся і застыў.**
**І чуцён у жоўтых дзюнах**
**дарагі усім матыў.**

**Два крылы, як дзве далоні,**
**той малюнак абвялі.**
**Усміхаецца Чурлёніс**
**зоркам, сонцу і зямлі.**

●

**Цягнуўся доўга наш раман,**
**раман усмешак і намёкаў.**
**Ды вось рассеяўся туман,**
**ты ад мяне цяпер далёка.**

**Грыміць жыццёвы акіян**
**пад гэтым даўнім Шляхам**
**Млечным.**
**Як хутка скончыўся раман,**
**што нам з табой здаваўся**
**вечным.**

●

**Букет рамонкаў на стале**
**тваёй пяшчотаю сагрэты,**
**напамінае сёння мне**
**цяплынь і ласку цуда-лета.**

**У сэрцы вернасць я збярог.**
**І кветкі ціха разглядаю,**
**і вераснёвы халадок**
**я за дзвярыма пакідаю.**

**Там лісце мокне на зямлі,**
**вярба не ў промнях-пераліках,**
**а тут —**
**рамонкі зацвілі**
**цяплынь вачэй тваіх**
**шчаслівых.**

Пераклаў Віктар ШЫМУК.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**



# На стыку смерці і жыцця

Шукаю, клічу, — ўсё ў мінулым,
Як цень знікае, не знайсці,
І нарастае гул падземны,
Дрыжыць расінка на трысці.

Вярнуцца ў свой выток спрабую,
А сцежкі глогам зараслі,
І долю, ўсё жыццё сляпую,
Ваджу, як старца, па зямлі.

Туманам, золкаю імжою
Зноў далягляд завалакло,
І за апошняю мяжою —
Усё, што было і не было.

Мая душа без адпачынку
Ліпіць на вастрыі ляза,
І коціцца з трысця расінка,
Як адзінокая сляза.

Шукаю, клічу, вараджу я,
Наіўна веру, як дзіця,
А лёс шляхі мае крыжуе
На стыку смерці і жыцця.

Адны пад навальніцай гнуцца,
Знікаюць іншыя, як цень...
Як ні шукаю, мне вярнуцца
Не суджана ў шчаслівы дзень.

●

Як мне ні горка на душы,
Як ні трывожна ў свеце,
А салавей пяе ў глушы
Чаромхавага вецця.

Заходзіць сонца за лясы,
Усходзіць, як заўсёды,
І ледзьве чутны галасы
Яшчэ жывой прыроды.

Яе пакінулі на здзек
І нелюдзі, і людзі.
Няўжо і дваццаць першы век
Такі злачынны будзе!

Мне кажуць: «Боль не варушы,
Пакуль душа жывая».
Як добра, што ў лясной глушы
Хоць салавей спявае.

# Мінае лета

Прапах вільготнай кашанінай
І ліпенем самлелы луг,
Ужо трывогай жураўлінай
Самкнуўся дня і ночы круг.

Каснік барвовы перакрэсліў
Паружавелы небасхіл,
Павольна за дзявочай песняй
Над шляхам асядае пыл,—

Плывуць, знікаюць залацінкі
Пад вечароваю зарой.
Даспела жыта, і дажынкі
Па звычцы справілі старой.

Курацца лёгкія туманы,
За хмараю патух прамень.
І так шкада, што вельмі рана
Канчаецца ліпнёвы дзень.

За зоркай выбліснула зорка,
А змрок усё гусцей, гусцей,
І на душы самотнай горка,
Што дні прыкметна карацей.

Зажурыцца і сціхне поле,
Каб толькі акрыяць вясной,
І восень золкая паволі
Лугі укрые сівізной.

Кароткае мінае лета,
А песня так і не дапета.

●

Я ноччу пішу,
А ўранні закрэслю,
Каб часам ізноў
Вертухаі не трэслі
Кішэні, каўнер
І рубцы на кашулі,
Каб спрат не шукалі
У падстрэшшы і ў шуле.
Сказаў аднаму я:
«Старайся, хоць трэсні,
Не знойдзеш крамольнай
Ні казкі, ні песні.
Яны не ў падполлі
І не на паперцы,
Яна ў галаве
І глыбока ў сэрцы».
Іх там не закрэсліць,
Бо прагна хачу я
І ведаю — праўду
Хоць нехта пачуе.

# Адзін радок лемантара

Разгадаць прыйшла пара
Адзін радок лемантара:
«Мы—не рабы. Рабы—не мы».
А я, нібыта вол рабы,
Агаладалы і нямы,
З маленства трапіў у абоз
І ад зімы і да зімы
Цягну чужы вялізны воз,
Уранні, ўпоўдзень, да паўночы,
Бо пад'ярэмны вол рабочы.
Пот залівае лоб і вочы,
Крумкач пагібель напрарочыў,
Бо знае абавязак свой —
Кружыць над кожнай галавой.
Я воз цягну з апошняй сілы
Ад нараджэння да магілы,
І плачу, хоць не маю слёз,
Што выпаў самы горкі лёс:
Не ведаць радасці ніколі,
Радзіцца на здзічэлым полі,
Дзе людзі радыя скарынцы,
Бо правяць каты і злачынцы
І лічаць воляю няволю,
Глядзяць, як хіжыя сычы,
І свішчуць хлёсткія бічы.
Як ні стагні, як ні крычы,
Ніхто не хоча памагчы.
Таму не плачу, а крычу я,
І ўсё адно, — ніхто не чуе.
«Мы — не рабы. Рабы — не мы»,
Мы — вязні даўняе турмы.
Дай Бог, каб сынавы сыны
Забыліся пра кайданы,
Не стукаліся ў сцены лбамі
І не былі, як мы, рабамі.

# Маё сузор'е

Пасля дажджу запахла мятай,
Купенаю і палыном,
А ты душу маю не кратай
І не палохай вечным сном,

Дабразычлівец мой старанны,
Неразгаданы мой сусед,
Што ўдзень, увечары і ўранні
Як цень, ідзеш за мною ўслед.

Ніхто і дня мне не пазычыць,
Не затрымае болей тут.
Як толькі адыйду, паклічуць
Архангелы на страшны суд.

Спытаюць, ці грашыў Грахоўскі,
Ці праўду не прадаў за страх.
Прызнаюся, цярніста-коўзкі
І пакручасты быў мой шлях,

Грашыў я, як і ўсе грашылі,
Хлусні паверыў, як і ўсе,
І д'ябальскай маліўся сіле, —
Лічыў, што радасць прынясе.

Мяне ж бяда бічамі секла,
Душыў за горла голы звер,
Ганяў гадамі з пекла ў пекла,
У пекла трапіў і цяпер,

Я выцерплю бяду і страты,
Прайду Гамору і Садом,
Каб толькі ў пекле пахла мятай
Купенаю і палыном.

Пакуль яшчэ зусім не змеркла,
Сузор'е і маё дрыжыць,
І па дарозе з пекла ў пекла,
Пакуль жыву, павінен жыць.

# Пакаянне

Не Багі абпальваюць гаршкі,
Не Багі даруюць нам грашкі,

Не Багі прыдумалі закон,
І жыццё паставілі на кон,

Не Багі нам абяцалі шчасце,
Не Багі нас навучылі красці,

Не Багі стварылі лад благі, —
Над Багамі ў нас былі «багі»,

Што палацы нішчылі і храмы, —
Аўтары адной крывавай драмы,

Вартыя суда і пакарання,
Што дасюль жывуць без пакаяння.

Нават Бог злачынствы не даруе
Тым, хто кіраваў, і хто кіруе.

Хто ж цяпер няшчасным дапаможа,
Калі Ты не злітуешся, Божа!

# Двойчы пакараны

Недзе ў ліпені 1933 года ў час наведання Мінска я выпадкова пазнаёміўся з маладзенькім пачаткоўцам. Адбылося гэта ў кабінеце маладога аўтара пры аргкамітэце СП БССР, дзе працаваў Мікола Хведаровіч. Не паспеў я зачыніць за сабою дзверы, павітацца і падысці да стала, за якім сядзеў яго гаспадар, як той, падаючы руку, вымавіў:

**— Ну, Маякоўскія, знаёмцеся. — Паказаўшы на мяне, ён сказаў: — Паўлюк Бураўей. — І ўжо паказваючы на юнака, які таксама быў у пакоі: — А гэта Вісарыён Гарбук, таксама паэт.**

**— А я чытаў вашы вершы, маю і кніжку «Песні грузчыкаў»,— выпаліў мой новы знаёмец.**

**Каб не застацца ў даўгу, я пастараўся паднесці сюрпрыз хлопцу:**

**— Таксама чытаў твае вершы, вось толькі не памятаю дзе.**

**— Можа, у Міколы Хведаровіча? Бо ў рэспубліканскім друку я яшчэ не выступаў, — адказаў Гарбук, чырванеючы.**

**— Можа быць, — пагадзіўся я, хоць, шчыра кажучы, хлусіў: не чытаў я ягоных вершаў ды і прозвішча пачуў упершыню.**

Не ведаю, зразумеў мяне М. Хведаровіч, ці не, але змоўчаў. Відаць, здагадаўся, што я хітрыў на карысць маладога аўтара.

Што мне спадабалася ў маім новым знаёмым, дык гэта яго разважлівасць, вялікая начытанасць. Вонкава Гарбук быў някідкі: хлапчына сярэдняга росту, хударлявы, з цёмна-сінімі вачыма і каштанавымі кучарамі. Гаварыў ён ціха, але пераканаўча. Перасыпаў размову прыкладамі і вытрымкамі з розных кніг. Толькі праз многа гадоў я даведаўся, што ў сям'і дзядзькоў Гарбука была багатая бібліятэка, у якой можна было знайсці кнігі не толькі мастацкай літаратуры, але і працы па гісторыі, геаграфіі, прыродазнаўстве. У сваёй аўтабіяграфіі Гарбук з вялікай удзячнасцю прыгадваў і свайго настаўніка Хвядоса Рыгоравіча Іванова, які бездакорна ведаў гісторыю беларускай літаратуры, у свой час выпісваў «Нашу Ніву», друкаваўся ў ёй і прывіў усім любоў да твораў Багушэвіча, Цёткі, Купалы, Коласа, Багдановіча, Бядулі...

Зноў мы сустрэліся з В. Гарбуком ажно амаль праз сорак гадоў! Праўда, да гэтага гадоў 10 абменьваліся віншавальнымі паштоўкамі. Сустрэліся, зноў жа, не без дапамогі М. Хведаровіча: ён і тут нас звёў.

У 1972 годзе паехаў я ў Жалезнаводск, што побач з Пяцігорскам, і, вядома ж, не мог не наведаць сябра па пяру і па лёсе.

Цяпер гэта быў ужо не той юнак. Я ўбачыў худога, з бледным тварам, з пакалечанымі рукамі і нагамі мужчыну сталых гадоў, на якога паспелі пакласці адзнаку не толькі хвароба, але і заўчасная старасць.

— Во, бачыш, што зрабілі са мной час і людзі? Дакладней — нелюдзі. Ці пазнаў бы ты мяне дзе-небудзь на вуліцы? — запытаўся ён, і сам жа адказаў: — Не, не пазнаў бы!..

Тады яшчэ я не ўсё ведаў пра яго трагічны лёс і незвычайную мужнасць. Як і многія, лічыў, што яго знявечыла вайна. А на самай справе — вайна даламала, а ламаў пісьменніка на працягу чатырох год ГУЛАГ, Калыма.

У 1933 годзе В. Гарбук скончыў Лепельскі педтэхнікум і пачаў настаўнічаць у Чашніцкім раёне, адразу паступіў на завочнае аддзяленне літфака Мінскага вышэйшага педінстытута. Праз два гады перавёўся на стацыянар. Пра далейшае чытаем у аўтабіяграфіі: «У красавіку 1936 года мяне арыштавалі па хлуслівым даносе. Арышт быў першым трагічным выпрабаваннем. Я адхіліў усе паклёпы, вінаватым сябе не прызнаў, але ж...»

Так ён трапіў у лапы сталінскіх апрычнікаў, якія знявечылі яго да непазнавальнасці. У дадатак да ўсяго гэтага яшчэ чатыры гады Калымы!

Пасля яжова-берыеўскага «курорта» В. Гарбук, і года не папрацаваўшы ў школе, пайшоў на фронт. Служыў у сапёрных часцях. Неаднойчы быў паранены. Нягледзячы на гэта, па пояс у балотнай багне і ледзяной вадзе ўзводзіў розныя ваенныя збудаванні. У выніку ў пачатку 1946 года цяжка захварэў поліартрытам. Было гэта ў паверженым Берліне...

**Сядзім, гамонім. Правільней, сядзеў я, а ён стаяў, бо сядзець не мог. Яму і крэсла такое зрабілі, на якім ён нібыта сядзеў, а на самай справе стаяў, абапіраючыся на мыліцы.**

**— Вайна, браце, страшная стыхія, але куды страшнейшай была Калыма. На вайне цябе могуць забіць ці параніць. А ў канцлагеры ты паміраеш гадамі быдлам, рабом, цябе ніхто не лічыць за чалавека.**

**Успамінаў перажытае і — плакаў. Плакаў не толькі ад болю, але і ад крыўды. Нікога я не бачыў, хто б гэтак пакутаваў, як В. Гарбук. На працягу чатырох дзесяткаў гадоў яго не слухаліся ні рукі, ні ногі. Да ўсяго —невыносны боль. І ўсё ж ён знаходзіў сілы чытаць, займацца творчай працай. Амаль лежачы напісаў каля двух дзесяткаў кніжак для дзяцей.**

Па натуры В. Гарбук быў паэтам, але з 1946 года пісаў выключна прозу. Вершы часам таксама пісаў, але «для сябе», хаваючы іх у пісьмовым стале.

Сустракаліся мы пасля неаднойчы. Язвенная хвароба вымушала і вымушае мяне наведваць Паўночны Каўказ амаль штогод. І не было выпадку, каб не адведаў сябра. Заходзіў у кожны прыезд па некалькі разоў. Колішняе знаёмства перарасло ў сяброўства.

— Як толькі пачне таяць снег, я ўжо з нецярпеннем чакаю твайго прыезду, — прызнаваўся мне В. Гарбук неаднойчы. — Ты ў мяне другі пасля Міколы Хведаровіча. Праўда, ёсць і яшчэ адзін сапраўдны сябар — гэта Станіслаў Пятровіч Шушкевіч. Такі шчыры і бескарыслівы чалавек. Але ж ён рэдка тут бывае. Калісьці бываў тут і Андрэй Александровіч, з якім мы таксама былі ў добрых adносінах...

А між адведкамі мы рэгулярна перапісваліся. Пісаць яму было цяжка: не слухаліся рукі. Таму часта гэта рабіла яго верная сяброўка — жонка Людміла Пракопаўна. Яна перапісвала ці перадрукоўвала і ўсе яго рукапісы. Людміла Пракопаўна і сама інвалід, але рукі ёй пакуль што не здраджвалі.

З надыходам цёплых летніх дзён ён з дапамогай жонкі перасяляўся на балкон, дзе заўсёды стаяў ложак з нацягнутымі над ім вяроўкамі, з дапамогай якіх ён лажыўся і падымаўся. Ад чыёй-небудзь дапамогі катэгарычна адмаўляўся. Калі я наведаў яго ўпершыню і паспрабаваў дапамагчы яму падняцца, Вісарыён Сцяпанавіч рашуча запярэчыў:

— Не, не, не трэба. Я сам. Нават жонцы не дазваляю.

Мінут пяць ён траціў на тое, каб падняцца, і яшчэ столькі ж, каб перайсці ў другі пакой з дапамогай неразлучных мыліц.

— Вось, так, дружа, і жывём, — горка ўсміхнуўся. — Непрыкметна праходзяць дні за днямі і гады за гадамі. Хутка ўжо і фінал...

Аднойчы, у час чарговага наведвання В. Гарбука, я ўбачыў пад ягоным акном купку дзяцей. Аказваецца, ён размаўляў з імі з балкона — выступаў, як пасля сам сказаў. І выступленні такія адбываліся амаль штотыдзень. І кожны раз дзе-

На апошняй ракавой мяжы
Злітуйся і бедным памажы

Адшукаць і нам такую ўладу,
Каб руіны давяла да ладу.

## Казка жыцця

Наперадзе ўсё меней, меней
Гадоў і месяцаў, і дзён,
А на шляху — адно каменне,
І нават Месяц не відзён.

Спыняюся на кожным кроку, —
Дням і гадам падлік вяду,
І, быццам невідушчы ў змроку,
Наперад вобмацкам іду.

Трывае дух, слабее цела,
Бо падаў і гарэў жыўцом...
Жыццё імгненна праляцела,
Як казка з жудасным канцом.

## Паэт

Памяці ахвяраў рэвалюцыі.

Спрадвек сапраўднага паэта
Каралі, гналі у турму,
Зжывалі сцюжаю са свету,
А горача было яму:

Гарэла сэрца, стукалася ў скроні,
Душа ірвалася ў прасцяг,
Да забароненай Пагоні,
Дзе Бел-чырвона-белы сцяг.

У снах угрунь ляцелі коні,
Ён імі трызніў з году ў год,
Гібеючы у меншай зоне,
Калі ў вялікай быў народ.

Нікім не скораны і смелы,
Жывога слова чараўнік,
Знявечаны і анямелы,
Нібы сняжынка ў сцюжу, знік.

Ён з вечнай мерзлаты сягоння
Ўзляцеў, як Фенікс — вечны птах,
Туды, дзе ўгрунь ляціць Пагоня,
Дзе Бел-чырвона-белы сцяг.

## Адчай

У вір пазіраю пустымі вачыма,
Бо гэтак, як мы, існаваць немагчыма,

Ратунку няма, і ніякай надзеі,
Бо зноў раскашуюць дзялкі і зладзеі.

Наўкол азірнуся, да трох палічу,
А ў вір галавою... не палячу.

ці пакідалі пісьменніку свае немудрагелістыя падарункі і кветкі.

Прыходзілі да Гарбука не толькі дзеці. Яго наведвальнікамі былі пачаткоўцы і сталыя пісьменнікі, у яго кватэры можна было напаткаць урача і бухгалтара, рабочага і настаўніка. Да яго шмат хто ішоў і за парадай, і проста так — «на агеньчык». Не, ён не быў адзінокім!

Аднойчы ранняй вясной, недзе ў сакавіку, атрымаў ад В. Гарбука кароценькі ліст, у якім ён пісаў, што з нецярпеннем чакае майго прыезду ў жалезнаводскую здраўніцу. А мне тым разам выдзелілі пуцёўку ў Карлавы Вары. Чаму я не адмовіўся, чаму не паехаў у звычны для мяне Жалезнаводск? Сталася так, што якраз у той час, калі я піў карлавараўскую гаючую вадзіцу, В. Гарбука не стала.

**І пасля смерці Вісарыёна Сцяпанавіча я не забыў дарогі ў яго кватэру. Двойчы наведваў Людмілу Пракопаўну. Разам з ёю быў на могілках, дзе спачывае мой сябра. Людміла Пракопаўна паклапацілася, каб паставіць мужу помнік. На ім надпіс, як жадаў Вісарыён, зроблены па-беларуску.**

**Памог я Людміле Пракопаўне «ўладкаваць» бібліятэку і архіў нябожчыка. Зрабіць гэта, прызнаюся, было не лёгка. З архівам — лягчэй. А вось наконт бібліятэкі давялося нямала пахадзіць па розных установах Мінска. Каля двух гадоў аббіваў я парогі і СП Беларусі, і Акадэміі навук, і архіва-музея... Ніхто не адмаўляў і ў той жа час не хацеў браць на сябе такі «груз»: то месца няма, то з грашамі «тугавата», то яшчэ што-небудзь. У рэшце рэшт Саюз пісьменнікаў знайшоў сродкі і камандзіраваў у Пяцігорск двух работнікаў Літаратурнага архіва-музея Беларусі. Двойчы па маёй просьбе Беллітфонд аказваў пасільную матэрыяльную дапамогу ўдаве пісьменніка.**

Сёння ўмовы нашага жыцця рэзка змяніліся, не так лёгка стала трапіць на Каўказ. Ды ўсё ж спадзяюся, што зноў буду ў Жалезнаводску, зноў пабуду ў сябравай хаце і на ягонай магіле.

**Павел ПРУДНІКАЎ.**

**Да 110-х угодкаў з дня нараджэння Янкі Купалы Беларускае тэлебачанне рыхтуе прэм'еру—дакументальную стужку «Ніколі я не паміраў» (рэжысёр фільма Уладзімір Бокун, аўтар сцэнарыя Георгій Колас (пры ўдзеле Таццяны Процькі і Віталя Скалабана).**

**Упершыню друкуючы літаратурную першакрыніцу дакументальнага фільма, мы хацелі б прыцягнуць увагу нашых чытачоў да будучай прэм'еры, а таксама даць ім магчымасць параўнаць прачытанае з убачаным на экране ў дзень нараджэння песняра.**

# «НІКОЛІ Я НЕ ПАМІРАЎ»

## Сцэнарый дакументальнага тэлефільма

**Ходзім, блудзім, снуем**
**без прыстанішча,**
**Адпраўляем старыя малітвы**
**На забытым самымі курганішчы,**
**Дзе спяць сведкі нявыйграных**
**бітваў...**

Фільм пачнецца з адпявання хрысціяніна Івана, сына Даменіка і Бянігны Луцэвічаў, у Радашкавіцкім касцёле, дзе яго хрысцілі ў ліпені 1882 года. Адпяванне будзе ў нашы дні, праз 50 гадоў пасля яго фактычнай гібелі ў зеніце славы Песняра, чыё імя ў яго літаратурным псеўданіме ўвекавечана як сімвал беларускай нацыі — Янка Купала.

Надмагільны помнік Песняру, з радком: «Мне сняцца сны аб Беларусі»... А ніжэй праявяцца, пульсуючы выявай, словы, з голасам «адтуль»:

«Про Янку Купалу. Октябрьскую революцию встретил в растерянном состоянии... Не в ту сторону были направлены мысли, чувства, не в этой перспективе виднелось будущее, о котором часто можно встретить в дореволюционных произведениях Купалы». (Лука Бендэ, крытык і літаратуразнаўца, з «Дакладных запісак у ЦК ВКП(б)»).

Хроніка жалобнай грамадзянскай паніхіды, з партрэтам і з радком «Мне сняцца сны аб Беларусі». Дату смерці абвесцяць газеты з некралогамі — 28 чэрвеня 1942 года.

Л. П. Александроўская кладзе букет, а голас «ад Купалы»:

«Дзякуй табе, дзякуй, Перапёлачка, бо гэта ж, калі б Сталін гэтак перабіў мяне, я б там і паваліўся»...

Мы не будзем заглыбляцца ў сэнс пачутага. Аднак жа нагадаем пра падзею, аб якой паведаміў нам «голас Песняра». Мо хай глядач адчуе ўжо адразу, што Купалаў лёс праходзіў па арбіце, вельмі блізкай да касмаганічнай сферы непасрэдных клопатаў Правадыра Народаў, і таму — хай Сталін... з'явіцца на паніхіду па Купалу, хай пачуе:

**...О так! Я — пралетар!..**
**Яшчэ учорах раб пакутны —**
**Сягоння я зямлі ўладар**
**І над царамі цар магутны!**

Хроніку жалобнай грамадзянскай паніхіды «паяднаем» з кінакадрамі даволі рэдкімі, пакуль яшчэ, бадай, нікім не скарыстанымі: у ложы XVIII з'езда ВКП (б) таварыш Сталін разам са сваім наркомам Варашылавым кагосьці слухаюць, аб нечым перамовіліся, Сталін нешта запытаў, напаўсхіліўшы галаву, не адрываючыся ад асноўнага аб'екта ўвагі, быццам ухваляючы Купалаву страфу, а разам з ёй — і рытуал з букетам палявых рамонкаў у руках Л. П. Александроўскай. За кадрам — сталінскі акцэнт:

«Надо беречь каждого способного и понимающего работника, беречь и выращивать его. Людей надо заботливо и внимательно выращивать, как садовник выращивает дерево. Иосиф Сталин».

А Л. П. Александроўская ў той момант, кладучы букет, успаміна пра сябе і пра Купалу на тым з'ездзе: як ёй давялося агалошваць прывітанне Партыі і Сталіну — ад беларускага народа. Дзякуючы хроніцы, той момант уваскрэсне на экране — маладая прыгажуня з пафасам чытае верш:

**Як ворану**
**вышай арла**
**не лятаць,**
**Так ворагу**
**нашай зямлі**
**не таптаць!**

Усе ўстаюць. Экзальтаванае трыумфаванне!!!

Раптам — цішыня. На кіназдымачнай пляцоўцы сённяшняя кінагрупа на чале з М. Пінігіным (тэатр імя Я. Купалы) працуе над экранізацыяй свайго спектакля па камедыі Купалы «Тутэйшыя». Здымаецца той момант, дзе калыску «з неба» прыняла Матуля, пачала люляць, а тут — Навала ў Кайзераўскай Касцы... Ад тае «Навалы» — зноў у хроніку:

акупаваны Мінск, 1942. Руіны. Могілкі.

— Тым самым днём, калі яго ў Маскве хавалі, у акупаваным Мінску пахавалі яго маці...

Агітмашына з транспарантам «Так было», з антысавецкімі плакатамі: «Такой была савецкая дзяржава», сталінскае пудзіла на троне—з трафейнай кінахронікі (а нашы — апладзіруюць?)...

З той самай хронікі — Яна і Ён. Зажынкі.

Голас «ад Купалы»:

**Як дзеці, пазабытыя тым светам,**
**Свае палеткі будзем аглядаць...**

**Багата мы з табою маем гоняў.**
**Упару абсеяць, зжаці б толькі іх,**
**Ды ў добры час зложыць**
**у застаронне**
**Сям'ю снапкоў, паспелых, залатых...**

«Адкатка» хронікі — год 1939. Чырвонаармейцы скачуць (пры наганах) польку з маладзіцамі. А голас Маці:

**На каго ж ты нас пакінуў?**
**Чаму ж лепей дамавіну**
**За калыску, за ліпову,**
**Ты не даў нам дзеля схову?**

Брама з транспарантам: «Коммунизм сметает все границы» — расчынілася! Дзяржаўную мяжу ўзламалі нашы, ручкаюцца з немцамі... То ж наша хроніка!

І зноў — з трафейнай хронікі: акупаваны Мінск, і тут таксама ручкаюцца, каб на іх... Дзядочак-стараста падносіць хлеб і соль вялікаму нямецкаму начальніку — затурканы, разгублены, збянтэжаны (куды яму да тых, што ручкаліся ў нашай хроніцы), — яго за локаць шмарганулі збоку: досыць — усё ўжо...

Зноў «адкатка» хронікі — трыццатыя гады: на мітынгах клянуць пачварных ворагаў народа, на парадах дэманструюць моц Чырвонай Арміі, камбедаўцы па-ўдарніцку рабуюць кулакоў...

— Фарсіруючы тэмпы калектывізацыі ў трыццатым годзе, ГПУ рэспублікі распачынае «Справу аб контррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі» (справа СВБ).

На тагачаснай кінахроніцы чытаем загалоўкі, вытрымкі з артыкулаў: «Выбух гневу і абурэння пралетараў БССР супраць выкрытай органамі ГПУ рэспублікі контррэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай групы», «Сурова пакараць чорную зграю былых міністраў, афіцэраў, царскіх чыноўнікаў і буржуазных інтэлігентаў!», — патрабуе Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў»...

Імклівы рытм друкарскай тэхнікі, ударныя старанні друкароў-пралетараў, і на гэтым фоне праплываюць фатаграфіі асуджаных:

Прышчэпаў — нарком земляробства
Ігнатоўскі — прэзідэнт Акадэміі навук
Некрашэвіч — віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук
Баліцкі — нарком асветы
Лёсік — акадэмік
Ластоўскі — акадэмік
Гарэцкі — акадэмік...

86 асоб асуджаных. Абезгалоўленая нацыя, — яна ўяўлялася Вялікаму дыктатару ці не драконам, бо галовы адрасталі новыя і новыя...

Пасля чарговай фатаграфіі ўплывае на газетнай паласе Купалаў твар — у чорнай аблямоўцы, з некралогам. Рух замрэ. Акорд з «Інтэрнацыянала» (до основанья, а затем!..). Мы працытуем па газеце «Беларуская крыніца» спачувальны жаль з прычыны самагубства зацкаванага бальшавікамі Генія. «Інтэрнацыянал» зліецца з адпяваннем хрысціяніна Івана, сына Даменіка і Бянігны Луцэвічаў, а голас «ад Купалы» — быццам запярэчыць:

«Я катэгарычна пратэстую проці такой агіднай хлусні. Ніколі ніхто мяне пры Савецкай уладзе не арыштоўваў, і ніколі я не паміраў... З боку камуністычнай партыі і Савецкай улады як карыстаўся, так і карыстаюся прыхільнымі адносінамі. Жыву я пад аховай законаў дыктатуры пралетарыяту».

«Пад аховай законаў дыктатуры» — так мы вызначым унутраны напрамак новага сюжэтнага вузла, які раскажа, што вяло Купалу да заўчасных, прыжыццёвых некралогаў.

Слова возьмуць людзі-лялькі — шаржаваныя Купалавы героі:

«Камісар» з «Тутэйшых» (сцэна-пантаміма, у якой мы пазнаем у «Камісары» колішняга «Кайзераўца»,.. і Мікіта Зносак, з яго заклікам «праводзіць у тутэйшую сярмяжную нацыю вялікія ісцінныя прынцыпы а ядынасці, непадзельнасці і самадзяржаўнасці Расійскай, между протчым, імперыі»...

Ад выканаўцы ролі Зносака (артыст В. Манаеў) мы даведаемся, што «Тутэйшыя», пасля іх першай пастаноўкі ў 1926 годзе, между протчым, больш за 60 гадоў забараняліся цэнзурай. Между протчым, захавалася запіска пастаноўшчыка таго спектакля Папова Мікалая Аляксандравіча, тагачаснага мастацкага кіраўніка тэатра, дзе ён піша, што, не маючы ніякіх дачыненняў да беларускага нацыяналізму, ён, карэнны пецярбуржац-петраградзец, даўшы плоць і кроў Купалавым героям, напалохаў камуністаў Мінска так, што пасля першага (адзінага!) паказу п'есы былі зняты са сваіх пасад усе, хто мелі дачыненне да дазволу пастаноўкі...

Слова возьмуць камуністы Мінска (атэстуем кожнага на фатаграфіі).

Лука БЕНДЭ — крытык і літаратуразнаўца. З «Дакладных запісак».

Бендава рука гартае п'есу, голасам «адтуль» паведамляецца:

«Обращаю ваше внимание на следующие страницы и места, подчеркнутые красным. Стр. 127—129. Вся суть пьесы в этом. Дальше: стр. 148, 155, 159, 175, 178. Янка Здольник, Аленка, Горошко положительные типы, в которых воплощена идеология националистической интеллигенции, в том числе и самого Купалы».

Вільгельм КНОРЫН — сакратар ЦК КП (б) Б:

«Это — банкрот! Полный и окончательный. И не найдется такого дурака, который за акции этого банкрота дал бы медный пятак, не то что советский «лимон». (Вуліца імя Вільгельма Кнорына, з мемарыяльнай шыльдай)...

ЗАТОНСКІ — эмісар з МАСКВЫ, запіска ў ОГПУ СССР:

«Таким образом, националистические поэты советский пирог кушают, но дело делают свое. Кроме нескольких революционных стишков вроде «Арлянятам», относящихся к 1924—1925 гг., до сих пор из Я. Купалы ничего выжать не удалось, а носятся с ним, как с писаной торбой».

(Слова «выжать» выкадроўваецца, потым размываецца, чытаем шыльду: «вуліца Янкі Купалы»)...

На газетнай паласе — «Ліст у рэдакцыю», працытаваны голасам Купалы. Ён кашыруецца, пакідаючы адзін радок для прачытання: «Жыву я пад аховай дыктатуры пралетарыяту». Адпадаюць словы па баках, чытаецца: «я пад аховай»...

На здымачнай пляцоўцы зноў — «Тутэйшыя». У перапынку рэжысёр з артыстамі даведаюцца ад мастака Уладзіміра Стальмашонка пра такое:

...у 30-м годзе ў 1-ю клінічную да яго бацькі, вядомага хірурга, у адзіночную палату, быў пакладзены Купала з нажавым раненнем у жывот. Палату вартаваў вайсковец з ГПУ, і доктару да хворага ўваходзіць без яго забаранялася. Ляжаў Купала месяцы са два, загойвалася рана кепска і марудна, хворы быў прыгнечаны. Нарэшце заявіўся нейкі чын, таксама ў форме, з пакетам. Ён Купалу абвясціў: расследаванне завяршылася, абвінавачанні адпалі: «Вы свободны». Разгарнуў пакет: «Для Вас!» Каньяк, віно, прысмакі, дарагія папяросы... Купала нават не зірнуў. Накрыўся коўдрай з галавой. Яго закалаціла...

Прачынаецца Масква. Зіма. Куранты. 30-ы год.

«Сакратару ЦК ВКП(б) Постышаву ад 1-га сакратара ЦК КП(б) Беларусі Гея: «Считаю необходимым сообщить Вам, что вчера, 20 ноября, утром, покушался на самоубийство Янка Купала — народный поэт Белоруссии. Янка Купала являлся идейным центром нац.-демократической контрреволюции, что нашло отражение и в его творчестве. Наряду с произведениями вполне советскими у него имеются стихотворения и кулацкого и прямо контрреволюционного содержания».

На фатаграфіях Купалы 19-га і 20-х гадоў гучаць радкі:

(Працяг на стар. 14—15).

# КЛАСІКА ВЫМАГАЕ ГАРМОНІІ...

## «МАРЫЦА» — новы спектакль Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі

Апошняй у гэтым сезоне прэм'ерай тэатра музкамедыі, як паведамляў ужо «ЛіМ», сталася аперэта І. Кальмана «Марыца».

Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля А. Барсегян узначальвае трупу Харкаўскага рускага драматычнага тэатра. А ў перыяд 1971-75 гг., калі толькі-толькі заснаваны тэатр музычнай камедыі Беларусі перажываў часіну творчага станаўлення, Барсегянам тут было пастаўлена 6 спектакляў. Потым рэжысёр доўга не сустракаўся з мінскай трупай. І вось — «Марыца», яго сёмы па ліку спектакль на нашай сцэне (пастаноўшчык працаваў разам з дырыжорам А. Лапуновым, мастакамі А. Шчолакавым і Л. Ганчаровай).

**На пытанне, дзе ён знаходзіць больш магчымасцей для самавыяўлення — у музычным тэатры ці ў драматычным, А. Барсегян адказаў так: «Мне ўсё жыццё даводзілася нібы раздвойвацца, бо я не магу поўнасцю засяродзіцца, скажам, на рэжысуры драматычнага тэатра, кінуўшы пры гэтым тэатр музычны. Адчуваю, што праца ў абодвух напрамках мяне творча ўзбагачае. І як вынік гэтага — у музычным тэатры мне лягчэй увасабляць нюансы драматургічныя, а драматычны тэатр, адпаведна, узбагачаць музычнымі момантамі». Вось і наконт «Марыцы» рэжысёр адзначыў, што пры ўсёй умоўнасці драматургічнага дзеяння ён стараўся рабіць акцэнт на тых момантах, якія раскрываюць псіхалогію характараў, і ў сінтэзе з музыкай ісці да іх гарманічнага ўвасаблення. Наколькі гэта ўдалося, меркаваць гледачу, які мае магчымасць паглядзець спектакль у двух розных выканаўчых складах.**

Ці трэба гаварыць, што музыка Кальмана — гэта ўжо амаль палова поспеху спектакля? Ёсць гледачы, якія ідуць у тэатр на таго ці іншага выканаўцу, на таго ці іншага пастаноўшчыка, а ёсць такія, што ідуць «на Кальмана». Таму і ставіць класіку вельмі адказна, тым больш, што заўсёды ёсць магчымасць параўноўваць прэм'еру з ужо вядомымі бліскучымі пастаноўкамі, а мелодыі гэтага музычнага шэдэўра ў выкананні самых лепшых салістаў у кожнага на слыху.

Можа, таму так і хвалявалася на сцэне выканаўца партыі Марыцы Л. Станевіч, адчуваючы ўсю адказнасць гэтай работы і ў той жа час — непераадольную цягу да яе. У Л. Станевіч гэта першая вялікая роля. Дагэтуль ёй даводзілася ў асноўным працаваць на ўводах ці выконваць невялікія характарныя ролі. 10 гадоў назад, пасля заканчэння Белдзяржкансерваторыі, Людміла дэбютавала ў спектаклі «Бабскі бунт». Далейшы лёс артысткі складваўся не вельмі ўдала, заставалася толькі марыць пра значную ролю. І вось — Марыца. Самакрытычная артыстка сама адзначае, што ёй не ўсё ўдалося, таму ёсць надзея на хуткае пераадоленне хібаў. Так, у пачатку дзеяння адчуваецца яе скаванасць і няўпэўненасць — ды гэта, мабыць, хутчэй ад залішняга хвалявання, чым ад нявопытнасці. Ды і сам пастановачны момант не вельмі спрыяе таму, каб першае з'яўленне Марыцы на сцэне выглядала эфектна. Жанр аперэты вымагае яркай відовішчнасці. І выклікае нараканне таксама касцюм гераіні, залішне сціплы і па сцэнічных мерках невыразны. А першае ж з'яўленне на сцэне — гэта своеасаблівая заяўка персанажа аб сабе, і таму яно павінна быць яркім і ўражлівым. Да таго ж, адразу ідзе складаная для выканання арыя, аркестр жа, трэба адзначыць, не спрыяў таму, каб голас салісткі, не надта палётны, быў выразна пачуты па ўсёй глыбіні залы. Гэтыя моманты, натуральна, не спрацоўвалі на цэласнасць і выразнасць вобраза. Але ўжо ў другой дзеі Л. Станевіч — Марыца паўстала перад гледачом больш упэўненай. У артысткі з'явілася раскутасць і грацыёзнасць рухаў, яе голас ужо больш арганічна зліваўся з аркестрам.

Трэба сказаць, што другая дзея — ключавая для развіцця характараў герояў. І менавіта тут Л. Станевіч падкупляе гледача перш за ўсё сваёй шчырасцю і адкрытасцю, а таксама чыста жаночай абаяльнасцю. Праз нешматлікія дыялогі і, галоўнае, праз адчуванне музычнай драматургіі, яна стварае вобраз з усёй гамай сапраўдных чалавечых пачуццяў. Прытым Л. Станевіч вельмі ўдзячная Н. Гайдзе, якая, будучы рэжысёрам па ўводзе, вельмі дапамагла ёй у працы над завяршэннем вобраза.

У прафесіі артыста аперэты ёсць адзін істотны момант, які заключаецца ў пастаянным абнаўленні. Хуткая змена пакаленняў на сцэне — рэч звычайная. І тая акалічнасць, што ў прэм'еры ўдзельнічалі маладыя артысты, — гэта заканамерна і цікава, ад іх чакаеш чагосьці новага. З другога ж боку, адсутнасць дастатковага вопыту і няўпэўненасць у сваіх сілах могуць пашкодзіць. Таму і ўзнікала калі-нікалі думка: а мо было б надзейней, каб у прэм'ерным спектаклі ў ролі Марыцы выйшла спрактыкаваная Вікторыя Мазур? Яна цяпер у зеніце сваёй славы, і майстэрства яе адточанае, прыхільнікі таленту артысткі атрымалі б сапраўдную асалоду ад яе моцнага, яркага тэмбру голасу. Зрэшты, такую магчымасць тэатр публіцы даў неўзабаве. А самы першы спектакль стаўся святам маладых артыстаў, якія адчулі ўсю радасць і горыч прэм'ерных хваляванняў.

А. Ісаеў, выканаўца партыі Тасілы, — зусім нядаўна ў нашым тэатры (да гэтага працаваў у Растове). У канцы студзеня артыст дэбютаваў на мінскай сцэне, неўзабаве ўвайшоў у рэпертуар тэатра, нават пачаў займацца канцэртнай дзейнасцю. Між іншым, калі працаваць над «Марыцай» пачалі яшчэ восенню мінулага года, дык Ісаеў у рэпетыцыйны працэс увайшоў толькі ў пачатку красавіка. Аднак гэта ўжо дастаткова вопытны артыст, да таго ж — вельмі працавіты: нават не разумее, як можна працаваць над стварэннем вобраза, «эканомячы» сябе ў час рэпетыцыйнага працэсу. На прэм'еры артыста прынялі вельмі цёпла. Яго моцны палётны голас гучаў так натуральна-свабодна, што чароўныя мелодыі Кальмана ўздзейнічалі на слухачоў з новай сілай. Трэба дадаць, што А. Ісаеў мае прывабную сцэнічную знешнасць, і ягоны персанаж адразу прыцягвае ўвагу высакароднасцю аблічча.

Лінія герояў у лібрэта акрэслена наогул слаба, няма тых вострых момантаў, якія выяўлялі б характары ў іх сутыкненні. Як у лібрэта, так і ў пастаноўцы характарыстыкі герояў складаюцца з асобных фрагментаў, не зусім звязаных паміж сабою лагічна. Таму не адчуваецца напалу страсцей у фінале другой дзеі, якая павінна быць эмацыянальна насычанай. Дый фінал усяго спектакля невыразны.

А вось вельмі ажыўляюць сцэнічнае дзеянне два камічныя персанажы: барон Зупан і князь Эстэргазі-Шэленберг. Дзякуючы таленту і сцэнічнаму майстэрству, выканаўцы ствараюць вельмі яркія вобразы як бы з нічога. Бо з тэксту лібрэта і зноў-такі з фрагментарнасці пастаноўкі не вынікаюць іх цэласныя вобразныя характарыстыкі. Барон Зупан у выкананні Г. Казлова вельмі прывабны сваёй непасрэднасцю. Гэта прастакаваты, не вельмі разумны прадстаўнік «панства», тым не менш — нашчадак старажытнага роду. Ён з наіўнай прастадушнасцю імкнецца ажаніцца з маладой удавой, каб завалодаць яе багаццем. Артыст не агрубляе свой вобраз, ён умее выявіць у сваім персанажы ўсю надарэчнасць — з уласцівым яму мяккім гумарам і лёгкай іроніяй. Асабістая абаяльнасць Г. Казлова перадаецца ягонаму Зупану. Гледача проста захапляе бліскучая ігра акцёра, да таго ж вельмі арганічнага ў музычных нумарах, дзе вакал удала спалучаецца з высокай танцавальнай тэхнікай.

Але Коламан Зупан у гэтай стыхіі весялосці і жартаў, а таксама ў жаданні ажаніцца з Марыцай, не адзін — у яго ёсць сябра-сапернік, вельмі каларытная фігура. Гэта «вайсковы чалавек», таксама нашчадак старажытнага роду, які ніяк не можа пазбавіцца сваіх салдафонскіх звычак, — князь Эстэргазі. Выканаўца ролі А. Ранцанц насычае свой вобраз яркімі характэрнымі рысамі, вельмі ўдала карыстаецца багаццем інтанацый і жывой мімікай. Разам з Г. Казловым яны ствараюць сапраўдны дуэт. Проста замілоўваюць іх сумесныя дамаганні рукі Марыцы, у якіх няма нават ценю саперніцтва.

Паміж гэтымі персанажамі паўстае яшчэ адна каларытная фігура — «ясновельможная, глубоко урожденная» княгіня Бажэна. Гэта тыповая прадстаўніца старога арыстакратычнага роду, якая вельмі заклапочана ўмацаваннем аўтарытэту сваёй фаміліі. Артыстка З. Вяржбіцкая стварае надзіва цэласны характарны вобраз. Проста ўражвае, як можна было на такім сціплым матэрыяле стварыць сапраўды запамінальны характар! Дыялогаў, якія б высвечвалі аблічча гэтай гераіні, зусім мала. Усё заключаецца ва ўменні З. Вяржбіцкай данесці рэпліку так, што яна робіцца характарыстыкай стваранага вобраза. Артыстка карыстаецца мінімумам выразных сродкаў — толькі адценнямі інтанацыі свайго голасу і выразнасцю дыкцыі, віртуозна валодаючы ўменнем рабіць лагічны націск. Яна ж амаль увесь час сядзіць у інвалІднай калясцы, і наогул дзеянне з яе ўдзелам амаль не разгортваецца. Толькі акцёрскі талент дазваляе З. Вяржбіцкай стварыць уражанне драматургічнага развіцця ролі Бажэны.

Нельга не сказаць пра Пеніжака, слугу Бажэны, ролю якога выконвае А. Касцецкі. Тут яшчэ менш магчымасцей для выяўлення характару персанажа. Гэта немалады ўжо чалавек, у якога вельмі развіта пачуццё гумару. Ён пастаянна цытуе класікаў, што сведчыць пра эрудыцыю і гнуткі розум, бо цытаты Пеніжака заўсёды аказваюцца да месца. Тут акцёрскае майстэрства А. Касцецкага можна параўнаць з майстэрствам З. Вяржбіцкай, бо зноў-такі ўвесь вобраз будуецца на багацці інтанацыі і выразнасці дыкцыі.

Ролі Лілы і Стэфана маюць сваю драматургічную лінію, ёсць фактура, на якой магчыма будаваць вобраз. Артысты С. Якавец і В. Мінгалёў ствараюць лірычны дуэт персанажаў — рамантычных асоб, у якіх усё складваецца добра. Больш вопытная С. Якавец вядзе за сабою партнёра, яе акцёрскае майстэрства спрацоўвае на выразнасць дуэта і ў дыялогах, і ў музычных нумарах.

У цэлым уражанне ад спектакля добрае, яркія акцёрскія работы згладжваюць недахопы рэжысуры і лібрэта (лібрэта — слабізна класічных аперэт...). Але музычны бок спектакля здаецца не да канца адшліфаваным; сяды-тады выканаўцы збіваюцца з рытму, што, відаць, сведчыць пра недастатковую колькасць рэпетыцый з аркестрам. Часам артысты на сцэне і аркестр існуюць кожны як бы сам па сабе, бо няма таго адчування гармоніі, што звычайна вынікае з выканаўчага суладдзя. Гэта засмучае. Музыку Кальмана хочацца слухаць, убіраючы ў сябе чароўныя мелодыі, паддаючыся яе нястрымнаму тэмпераменту. І калі бачыш, як пад гукі чардаша артыст намагаецца не збіцца з рытму, то атмасфера спектакля перастае заварожваць і пачуццё расчаравання пагражае знішчыць прыемныя ўражанні.

**Зоя ЛЫСЕНКА.**



Марыца — Людміла СТАНЕВІЧ.



У ролі Тасілы Аляксей ІСАЕЎ.

Фота Ул. КРУКА.

**НАШЫ ГОСЦІ**

# АДНАЎЛЯЮЧЫ СУВЯЗЬ ЧАСОЎ

**Сёлетні філарманічны сезон парадаваў нас сустрэчай з выдатным музыкантам — лаўрэатам Міжнароднага конкурсу прафесарам Нарвежскай музычнай акадэміі скрыпачом Ісакам Шульдманам. Два яго канцэрты ў Мінску сталіся прыкметнай падзеяй музычнага жыцця.**

**Колішні выпускнік Спецыяльнай музычнай школы пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, які выступаў з канцэртамі з 14-ці гадоў, вучань дацэнта М. Гальдштэйна, ён працягваў вучобу ў Ленінградскай кансерваторыі і аспірантуры ў класе прафесара М. Белякова — гэтаму педагогу ён абавязаны многім у сваім станаўленні й развіцці як музыкант, як чалавек. Але ў 1972 г. малады скрыпач быў вымушаны паехаць у Ізраіль, дзе выкладаў у Ерусалімскай музычнай акадэміі і выступаў з канцэртамі як саліст.**

ДЗЕНЬ добры, шаноўныя! Вось, думаю, трэба расказаць вам пра маладых. Не, я не буду казаць пра ўсю моладзь нашай краіны, ці нават горада — няхай гэтым займаюцца публіцысты, статыстыі палітолагі. Я — з іншай кампаніі. З акцёрскай. А таму і казаць буду пра акцёраў свайго тэатра. Тэатра лялек, што ў Мінску.

Ён вельмі маленькі — наш тэатрык. І людзі тут працуюць мала каму вядомыя.

Дзеткі, ведаеце, усё болей персанажаў любімых запамінаюць, якое што ім да дзядзек і цётак ЗА, ПАД ці ЗАМЕСТ якой-небудзь Хрушкі, Козліка, Чарвячка...

Ды і дарослыя таксама...

Дарослы ў тэатр лялек трапляе і тут жа дзіцем робіцца. А як жа! Свет казак, свет цацак...

А так хочацца як-небудзь пачуць ззаду сцішаны шэпт: «Вунь, вунь... Той самы пайшоў... Арты-ыст! Ну, помніш, ён увесь час з падносам хадзіў. І як глядзеў!..»

Ага! І грудзі чамусьці шырэйшымі робяцца, і пастава, і пагляд... Зусім не так, калі чуеш: «Колька! Глядзі, а вунь Карабас Барабас!» І назаўсёды ты застанешся для маленькага гледача злосным дырэктарам лялечнага тэатра. І ніяк малечы не пераканаць, што дзядзька, можа, вельмі добры, што дзяцей і лялек дзядзька любіць: «Ён жа Карабас!» І ўсё. Карабасы — не дзядзькі. Барабасы — зладзеі!

А бывае яшчэ горш: «Мама, а вон лошадь пошел...»

«Не лошадь, доченька, а конь — это ж дядя», — папраўіць спагадлівая мама. Дзіцятка ўважліва паглядзіць разумнымі вачанятамі на «лошадь», на маму і прамовіць: «Ну да! Вон дядя лошадь пошел».

Ну, што тут скажаш?

Вось і ходзяць па сваіх справах Мальвіны, буржуіны, ваўкі, Пілаты, лісічкі-сястрычкі і лісічкі Алісы, Адамы і Евы, павіяны і мышаняты...

Дарэчы, добра, што пра мышэй успомніў (хоць я сам не вельмі люблю мышэй). І справа зусім не ў іх доўгіх і голых хвосціках, а ў тым, што яны ў асноўным шэранькія. І шмат іх. Чаго не скажаш пра нашых мышанят са спектакля «Ай ды Мыцык!» Па-першае, яны ў нас фіялетавыя... Што, ужо смешна? А па-другое, гэтым мышанятам цудоўна дапамагаюць жыць і свавольнічаць маладыя артысты тэатра Яна Агеенка і Мікалай Дашкевіч. Зусім яшчэ маладая рэжысёрка студэнтка Ірэна Мацкевіч сабрала ў свой спектакль тры пакаленні. Ад ветэрана да маладых. Ну, самі разумееце, у майстроў сцэны было спачатку злёгку іранічна-

# «НІКОЛІ Я НЕ ПАМІРАЎ»

(Пачатак на стар. 9).

**Паўстань з народу нашага, прарок,**
**Праяваў бураломных варажбіт...**

Працяг пісьма гучыць на ўнутранай турме-амерыканцы ў КДБ: «Приглашенный для переговоров в ГПУ...»

**І мудрым словам скінь з народу урок,**
**Якім быў век праз ворагаў спавіт!**

«...Купала упорно отрицал свою принадлежность к какой бы то ни было контрреволюционной организации...»

**Збяры ў адну ўсю Беларусь-сям'ю,**
**Вазьмі з яе прысягу і зарок...**

«...и не обнаружил ни малейшего желания пойти навстречу нам в смысле хотя бы осуждения контрреволюционной деятельности своих друзей — участников и руководителей СВБ»...

**Што не прадасць сябе, сваю зямлю...**
**Зняць путы Бацькаўшчыны ўстань, прарок!**

«Купала пытается оправдать свое стихотворение...»

**Шлях к хвале Беларусі пакажы,**
**Змяці з палёў яе чужых бадзяк...**

«Мы решили не требовать от Я. Купалы признания участия в союзе вызваления Белоруссии...»

**На стражы стань гранічнае мяжы...**
**Свой край заваяваць паўстань, ваяк!**

«...и сосредоточить свои силы на требовании выступить с открытым осуждением контрреволюционной деятельности белорусских интеллигентов, арестованных по делу СВБ».

**Гудзі над Беларусяй...**

«Думаю, что нам это удастся».

Бразнулі засовы. Праз расчыненыя дзверы камеры «выходзіць» фатаграфія Прышчэпава. Голасам Мікіты Зносака — пытанне:

— Прищепов! Между протчым, национал ли демократ Купала?

Тэкст адказаў чуецца падляскат пішучай машынкі, рукі перасоўваюць карэтку, робяць новую закладку, зноў друкуюць:

«Да, безусловно... Его стихотворения в советском духе, по моему мнению, были формальными, потому что, например, «Сыходзіш, вёска, з яснай явы, як сон маркотны нежаданы» — фактически было написано «як сон і сумны, і жаданы».

Карэтка прыпынілася: «Желанный сон»? Прекрасна».

Пальцы мякка барабаняць па баках машынкі:

«Между протчым, пішам так: «Купала идеализировал деревню — по нашенивски, и с такими взглядами на идеализацию вёскі единоличного хозяйства остался». Молодец, Прищепов! (Мяняецца закладка). Сам товарищ Бендэ, между протчым, позавидует».

Зноў бразнулі засовы, праз расчыненыя дзверы камеры «выходзіць» фатаграфія Некрашэвіча.

— Некрашэвіч! От Прищепова мы получили показания, что на квартире у Купалы, между протчым, устраивались политические банкеты. Вы бывали там?

Заляскаталі клавішы машынкі:

«В его салоне, как Купала гордо называл свою квартиру...»

Следчы дадае:

— Или в заезжей корчме, как называл ее Ластовский, между протчым...

«...бывали все нац.-демократы...»

— Начиная, между протчым, от комиссаров, национал-оппортунистов...

«...и кончая самыми незаметными работниками».

— В чем, между протчым, вредность вечеров у Купалы? Помните?

«Купала, безусловно, являлся главным идеологом...»

— Вот так-то лутче.

Бразнулі засовы, з камеры «выходзіць» фатаграфія Мядзёлкі, потым выплывае, як успамін, яе памаладзелы твар у гімназічнай маладосці, потым групавое фота: Купала сярод членаў беларускага навукова-літаратурнага гуртка пасля пастаноўкі камедыі «Паўлінка», 1913 г.

— Мядзёлка! Падпісалі ўсе і ўсё што трэба. Засталася драбяза. Пішы.

— Пра што?

— Пра то, как ты, Купалава Паўлінка, — между протчым, первая Купалава Павлинка, стала нашай. Между протчым, не фінці.

Заляскала машынка, а за кадрам мілагучны, сумнаваты спеў Паўлінкі: «Ой, ляцелі гусі ды й з-пад Беларусі...» На мелодыю кладзецца голас «ад Мядзёлкі»:

«В 1927 году я дала обязательства ГПУ БССР о том, что я не буду разглашать имевших место разговоров со мной о моем сотрудничестве с ГПУ. Эти разговоры со мной вел Опанский и Андреев (вуліца Апанскага, з мемарыяльнай шыльдай). В июне 1930 года в Горецкую Академию приехал сотрудник ГПУ Чернышев. Он мне сообщил, что в Белоруссии имеется контр-революционная организация националистической окраски с ориентацией на Польшу. В заключение он мне предложил принять участие в раскрытии этой организации. Я на это ответила согласием»...

Успleск «Інтэрнацыянала» («д о о с н о в а н ь я, а з а т е м»).

Пасля такога — варта перавесці дых.

Хай загучаць акорды «Спадчыны». На беларускіх краявідах. Запяюць мулявінскія «Песняры»:

**Ад прадзедаў спакон вякоў**
**Мне засталася спадчына;**
**Паміж сваіх і чужакоў**
**Яна мне доляй матчынай.**
**Аб ёй мне баюць казкі-сны**
**Вясенніх праталіны,**
**І лесу шэлест верасны,**
**І ў полі дуб апалены...**

Мелодыю пяройме Данчык-Андрусішын, папулярны ў нас спявак, амерыканскі беларус, —

**Аб ёй мне будзіць успамін**
**На ліпе бусел клёкатам**
**І той стары амшалы тын,**
**Што лёг ля вёсак покатам;**
**І тое нуднае ягнят**
**Бляянне-зоў на пасьбішчы,**
**І крык варонiных грамад**
**На могілкавым кладзьбішчы...**

З амерыканскім беларусам-спеваком нам трэба апынуцца ў Араў-Парку, пад Нью-Йоркам, дзе Купалаў помнік сціпла і пачэсна далучыўся да «неблагой кампаніі» — Уітмен, Пушкін, Шаўчэнка, Міцкевіч...

Там, за акіянам, нам спатрэбіцца сустрэча з Інай Рытар-Каханоўскай (псеўданім — Саковіч). Альбо з кімсьці з яе вучняў (мастачка Галя Русак, журналіст і гісторык Янка Запруднік, фундатар «Полацака» Сяргей Карніловіч, доктар мастацтвазнаўства Вітаўт Кіпель). Нам спатрэбяцца (праз іх) яе ўспаміны сведкі:

«Пакуты нашага народа — «раскулачванні» сялянаў, арышты і вывазы ў Сібір—сталіся першым актам гэтае драмы, у якой адразу змушаныя былі ўзяць удзел Купала і Лёсікі... Раскулачылі і Купалавых сёстраў з маткаю. Колькі Янка Купала ні бегаў па ўстановах — нічога не памагала. Урэшце, калі ён дастаў дазвол ім застацца ў Беларусі, іх ужо везлі ў кірунку Котласа. Купаліха, разам з Лёсічыхай, дагналі іх у Барысаве, выцяглі з таварнага цягніка»... («Янка Купала і Якуб Колас», 1982, ЗША).

«Абвінавачанні і пагрозы не спыняліся. Такія словы, як «ворагі СССР», «суровая кара», «працэс над нацдэмамі», «расстрэл», не сыходзілі з балонак афіцыйнага савецкага друку. Надышоў канец лістапада, і нашая драма падыходзіла да сваёй кульмінацыі: Янка Купала зрабіў спробу самагубства. У лютым застрэліўся Ігнатоўскі...»

Гэты стрэл мы пачуем. Ад яго здрыганецца постаць купалаўскага манумента. Выпрастаўшыся, Купала гляне ўніз — мы ці не ўпершыню павінны ўбачыць, якія мы адтуль — з ягонай вышыні. А потым ён — «пакрочыць». Разам з намі. Павядзе нас — у трыццатыя гады, праз хроніку «этапных» на той час падзей, з іх Беламорканаламі і Днепрагэсамі, чэлюскінцамі, чкалавымі, дрэсамі, шчаслівымі калгасамі, — дадаўшы хроніку Купалавых ушанаванняў, юбілеяў, атрымання ўзнагарод. На гэтай хроніцы (яна павінна «варушыцца ў галаве Купалы») прагучыць ягоны «пакаянны ліст»:

«Прасякнуты нацыянал-дэмакратычнай заразай (стрэл!), прышчэпленай мне («между протчым, чуеце, Прышчэпаў?»)... нашаніўскім перыядам маёй літаратурнай працы (стрэл!), калі я стаў быў адным з ідэолагаў буржуазна-дэмакратычнага «адраджэнства» (стрэл!) і «незалежніцтва» (стрэл!), я і пасля Кастрычніцкае рэвалюцыі не адмежаваўся, як належыла, ад акружаючага мяне нацыянал-дэмакратычнага асяродзішча (стрэл-стрэл), а быў уцягнуты ім і прыняў самы блізкі ўдзел у контррэвалюцыйнай рабоце віднейшых беларускіх нацыянал-дэмакратаў (кулямётная чарга), якія праводзілі свае шкодніцкія ідэі на культурным фронце».

Загуло на ўсю краіну: «На культурным фронце», рэха — фронце, фронце, фронце...

Артыст В. Манаеў (у апратцы Зносака):

«Между протчым, а ля гер ком а ля гер, на фронце як на фронце...»

З успамінаў кампазітара Шчаглова (Куліковіча):

«Каля 1935 году човен Купалавага жыцця ўзняўся ізноў угару. Партыйнае кіраўніцтва БССР выдае дырэктыву абыходзіць 30-цёхгадовы юбілей нашага песняра. Па твару юбіляра аніяк ня можна было пазнаць, што гэтая пастанова прыйшлася яму да густу. Твар паэты быў неспакойны, усхваляваны, быццам гаварыў: «Ой, браточкі, не націскайце зельмі. Я б лепш... таго... гэтага...» Але ж хто слухае ў Саветах самога юбіляра? Ён тут нявольнік, як і ўсе.

Ня ведаю, чыя гэта была думка перанесці заключную юбілейную вечарыну ў хату самога юбіляра. Дык вось, запрошаныя госці накіраваліся ў купалаўскі дамок, і «ах» ды «ох»: ва ўсю шырыню пакою стол, на белым абрусе чаго толькі няма. Нарэшце, усе занялі месцы. Але тут пачуўся голас:

— Таварышы! Наша юбілейнае пасяджэнне будзе трансліравацца па радыё на ўсю БССР.

Тут толькі госці пабачылі на стале чорны, з сярэбранымі беражочкамі чатырохкутнік — мікрафон. Ну, а калі мікрафон, дык, значыцца, і кантроля, і цэнзура, і органы НКВД. Госьці ў імгненне згубілі святочны настрой, які вылецеў з пакою, як з Аладавай трубы (сяброўскі шарж А. Волкава — Аладаў і Купала). Юбіляр-Купала меў найсумнейшы выгляд. Перад ім паклалі жмут паперкаў — «ягоная прамова», якую ён мусіў выдаваць за «свае» — адданыя партыі і правадыру словы... Усё пайшло паводля загадзя зацверджанага рэгламанту. Але было гэткае нуднае, вялае, нецікавае, што нават тыя, каму «ведаць належала», затурбаваліся, каб радыёслухачы не зрабілі якіх непатрэбных высноваў з «хаўтурнага настрою» юбілейнага банкету, і неўзабаве загадана было спыніць трансляцыю...

У 1937 годзе човен ягонага жыцця паляцеў стрымглоў уніз, ледзь-ледзь не затануўшы...»

Вернемся да помніка Купалы. Да фантанаў. У вясновы дзень. І паспрабуем (толькі — каб папраўдзе!) запытацца ў тых, хто апынецца там:

— Скажыце, як памёр Купала?

Мяркуюцца адказы:

кінуўся ў пралёт з высокага паверха ўніз,

яго забілі, скінулі,

энкэвэдысты? немцы?

штурхнула нейкая жанчына, бо чапляўся да яе, п'яны,

не ўтрымаўшыся — перакуліўся,

не ведаю...

Паэт Сяржук Сокалаў-Воюш ля помніка чытае сваю «версію»:

**Смерць выбірае час нягод.**
**Хто бачыў, як загінуў геній?**
**Мо толькі лесвічны пралёт**
**Ды цені, цені...**

Паэт Максім Лужанін абяцае прачытаць — сваю. Ягоны варыянт — Купалава гібель азначала «самавызваленне».

Паспрабуем звесці гэтых двух паэтаў разам — маладога з «тагачасным». З іхняе размовы ўвойдзем у аб'ект «гасцініца «Масква», — пачнём на хроніцы яе будоўлі, потым на вайну, «адтуль» і пойдзе тэлеграма:

«Правительственная. Казань Верхний Услон Печищи мельзавод Народному поэту Белоруссии Янке Купале прошу вас выехать Москву Совнарком БССР выезд телеграфьте Председатель Совнаркома Белоруссии Былинский» 4 июня 1942 г.

Сокалаў-Воюш нагадае пра даволі «цёмны», і дасюль не высветлены, факт (а мо ў гаворцы возьме ўдзел і аўтар?): на сакавіцкай сесіі АН БССР 1942 года, у Казані, Купалу давялося, робячы даклад «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя», — адхрышчвацца ад вельмі брыдкай з'явы: быццам у акупаваным Мінску немцы надалі ягонае імя ягонай вуліцы (дзе жыў ён да вайны). Ці не было тут нейкай повязі з «зацемненасцю» гібелі Купалы? І яшчэ пытанне— мы дасюль не ведаем, дзеля чаго яго паклікалі ў Маскву з Пячышчаў, дзе ён жыў тады ў эвакуацыі?..

Максім Лужанін, адмысловы знаўца ўсіх энцыклапедый, нагадае інфармацыю (магчыма, нават са спасылкай на аўтарытэтную крыніцу — зборнік дакументаў і матэрыялаў «Пуцявінамі Купалы», дзе пад тэкстам тэлеграмы зноска): «Купала запрашаўся ў Маскву ў сувязі з надыходзячым яго юбілеем». У якасці пацвярджэння далей ідзе спасылка: «Адначасова з ім з Казані запрашалася Н. Р. Грэкава, дзяржаўны дзеяч БССР».

Драматургію гэтай акалічнасці нам варта прасачыць уважліва.

Даведнік «Пуцявінамі Купалы» адсылае нас у справу № 684 Дзяржаўнага музея БССР, ліст сёмы. Тэлеграма Грэкавай з Масквы была адпраўлена, як і Купалу, 4 чэрвеня. Вось тэкст: «Казань Горком ВКП(б) Грековой Выезжайте вместе народным поэтом Белоруссии Янка Купала Москву Совнарком БССР».

**Аўтар:** Але ж паехаў у Маскву Купала—без яе...

**Артыст В. Манаеў** (у апратцы **Зносака**). Купалу, между протчым, з ёй было б, па-меншасці, няўтульна, не зважаючы на тое, што яна была зусім «тутэйшая» і ўнесла свой даволі значны ўклад у беларускую культуру, асабліва ў нашу мову — вось паслухайце (чытае па кнізе «Янка Купала і Якуб Колас»): яна ў 1939 годзе «... загадала ўнесці ў правапіс дзьве зробленыя ёю папраўкі ў лёзунг «Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!» Па-першае, слова «злучайцеся» заміняць на «еднайцеся», бо вось яна, як сакратар ЦК, часта падпісвае «дырэктывы» калгасам, што ўжо пара пачынаць «злучную кампанію для ската», таму заклік «злучайцеся!» ў дачыненні да пралетарыяту «неяк нядобра гучыць». Па-другое, у слове «яднайцеся» пачатковае «я» хоць і стаіць у першым складзе перад націскам, павінна пісацца праз «е», бо могуць быць выпадкі, тлумачыла Грэкава, калі слова гэтае пры пісьме ці друку трэба пераносіць, і тады пры падзеле яго можа выйсці «яд-». Для палітычнага лёзунгу гэта недапушчальна, і ЦК партыі на гэта не можа пайсці». Между протчым...

**Аўтар:** Грэкавай далі з Масквы «адбой». Праз тыдзень.

**Манаеў:** Мо Купала ўпарціўся («О так, я пралетар»)?

**Аўтар:** Складальнікі даведніка «Пуцявінамі Купалы» не заўважылі таго «адбою». (Аўтар і В. Манаеў — у архіве і гартаюць справу № 684: «Казань Горком ВКП (б) Грековой Вызов Вас Москву задержал Былинский до выяснения Ярославлем». Так што тэлеграфнае «еднанне» з пралетаркай Грэкавай ніякіх довадаў абгрунтаванню юбілейнай версіі, як бачым, не дае.

Вяртаемся ў кампанію да Воюша з Лужаніным. У абарону «юбілейнай версіі» Лужанін, пэўна ж, прывядзе ўспамін Анны Караваевай з купалаўскага зборніка «Такі ён быў» (у гутарцы з Купалам яна кажа, быццам увесь Саюз пісьменнікаў СССР «рыхтуецца»).

Контраргумент — адказ Купалы Анне Караваевай: «Гэта зусім неабавязкова». Акрамя таго — у пратаколах пасяджэнняў савета клуба ЦДЛ за 1942 г. пра Купалаў юбілей — няма ні слова. Коласаўскі вечар — ёсць (**не юбілей**, а в е ч а р, без удзелу юбіляра!). Нездарма Купала ў Караваевай, як сведчыць сама аўтарка, ад юбілейнай тэмы адмахнуўся: «Час не такі».

Апошні (трэці) довад у абарону «юбілейнай версіі» — нібы па горадзе былі расклееныя юбілейныя афішы, што яны анансавалі вечар юбіляра — у канцэртнай зале імя Чайкоўскага. Аднак — такой афішы не было, яе нідзе няма. Была крыху ранейшая, на месяц — пра «Вялікі паказ беларускага мастацтва» 18 мая, той «Паказ» анансаваўся ў «Праўдзе» аж за 10 дзён (чыясьці памяць пераблытала падзеі)...

Дык з якой нагоды ехаў у Маскву Купала? Без гэтага адказу пачынаць даследаванне гібелі — складана.

Паспрабуем дапытаць пакой у нумары, дзе жыў Купала. № 414-ты.

Адчынім дзверы. Паспрабуем увайсці. Уявім, што і як было — тады. Сядзіць Купала за сталом, пускаючы дымок ад папяросы ў задуменні. Паабапал, як вакол Кутузава ў Філях, — Лынькоў, Танк, Колас, Крапіва, Астрэйка, Глебка, Чорны, Куляшоў, Бялевіч, Гурскі... Так яно (нібыта так) было (нібы было). Увекавечана. Мастак Зянон Паўлоўскі — «Беларускія пісьменнікі ў Купалы ў Айчынную вайну».

Калі карціна «расплывецца», нумар у атэлі будзе выглядаць крыху «цясней». Тады «запросім» у пакой (праз выкадроўку) Купалу і Лынькова — тагачаснага старшыню праўлення СП БССР. Слова возьме сам Лынькоў (ягоны ліст да Л. Федчанкі).

«Прыязджаў ён *пагасцяваць* да нас на некалькі дзён з Казані (мо дазволім Зносаку заўважыць: «Между протчым — «пагасцяваць»). Можаш уявіць маё асабістае гора, калі літаральна за некалькі хвілін да сваёй смерці ён сядзеў у мяне, у маім 1036-м нумары на дзесятым паверсе гасцініцы «Масква» (і камера хай, «между протчым», слізгане на той паверх). Сядзеў вясёлы, бадзёры, жыццярадасны... А калі выйшаў, мне хвіліны праз тры-чатыры пазванілі, што Янкі Купалы больш няма жывога, *ён памёр». «Было ў нас многа гора, многа клопатаў»...*

Успамінае прафесар Ф. Т. Канстанцінаў (Масква):

«У той дзень я паехаў па справах да генерала Яроменкі (пазней маршала)... Дык вось, тады ж у Яроменкі знаходзіўся генерал Раманенка, начальнік Маскоўскай міліцыі. Раптам яму званяць: у гасцініцы «Масква» — ЧП. Машыны са свістам імчаць да гасцініцы. Высвятляецца жахлівае: *разбіўся* Янка Купала. Аказваецца, за некалькі хвілін да няшчасця ў нумары Купалы сядзелі госці («между протчым», камера імкліва *слізгане па парапеце ўніз,* з дзесятага паверха на чацвёрты, ад № 1036 да 414-га), сярод іх Лынькоў (пачуўшы гэта, камера зірнула ўверх, але вярнулася, пачуўшы нешта «новае»). Сядзелі, значыцца, выпівалі, але ў меру (уваходзім зноў у нумар да Купалы, дзе сядзяць усе, не выпіваючы, адно графін ці збан мо з-пад вады — на этажэрцы). Цёпла было, відаць, душнавата. Купала выйшаў прайсціся па калідоры, праветрыцца. У гасцініцы, калі вы помніце, да цяперашняга часу вельмі нізкія бар'еры лесвічныя, прыкладна на ўзроўні жывата. Паглядзеў ён уніз, магчыма, спатыкнуўся, страціў раўнавагу і ўпаў у лесвічны пралёт» (Б. Сачанка, «Мне сняцца сны», стар. 197—198).

Аўтар з кінагрупай — у № 414-м.

— Сядзелі, значыцца, і выпівалі — тут?

Карціна з выкадроўкай Глебкі і Купалы. Фанаграма — голас Глебкі (фанаграма захавалася ў музеі Янкі Купалы, але з-за якасці яе, напэўна, прыйдзецца пераагучыць):

«Пару слоў аб апошняй сустрэчы ў *дзень яго смерці. Я прыехаў з* Калінінскага фронта, 27-га. Заходжу, у яго сядзеў Макс Зінгер. «Пачаставаць бы, кажа, гарэлачкай, але ўжо 11 гадзін, усё зачынена». *Назаўтра пазваніў:* «Нясіце свае талоны». Пасядзелі. У гадзін дзевяць заходжу да Лынькова, там — Крапіва, зайшоў Купала»...

Выкадроўка — Глебка, Лынькоў, Купала, Крапіва. На Крапіве:

«Апошні раз я бачыў Янку Купалу зноў жа ў Міхася Лынькова, за гадзіну да яго трагічнай смерці. Апрача нас трох, у нумары было яшчэ чалавек пяць нашых агульных знаёмых. Я на кароткі час адлучыўся ў горад, а калі вярнуўся ў гасцініцу, мяне як громам паразіла вестка...»

У ложы XVIII з'езда Варашылаў нешта кажа Сталіну на вуха. Яны нібыта разглядаюць твор З. Паўлоўскага.

Агульны план карціны. Голас аўтара:

— Астатнія «чалавек пяць знаёмых», между протчым, нават не азваліся...

І раптам Сталін—на трыбуне, тыцне пальцам... у Якуба Коласа, нібыта правакуючы: кажы, кажы...

Адказ Якуба Коласа (як «алібі») «плыве» на тэлеграфнай стужцы:

«Правительственная Ташкент Союз писателей *Коласу Якубу Извещаем* о смерти нашего любимого Янки Купалы»...

Сталін «тыцкае» на Аркадзя Куляшова — той стаіць, схіліўшы галаву... На Гурскага, якога могуць не пазнаць, бо ён сядзіць напаўпатыліцай да нас (тут мы пакінем «незапоўненую нішу» — інфармацыя «на падыходзе»). Сталін тыцне па чарзе ў Астрэйку, у Бялевіча, у Чорнага (таксама застаюцца «незапоўненыя нішы», але мы мяркуем, што, па-крайнасці, калі не будзе дадатковай інфармацыі, якую мы чакаем, кожны з тых «пяці» падасць «адтуль» два-тры радкі, прысвечаныя Купалу)...

Іна Рытар-Каханоўская:

«На бацькаўшчыне пра смерць Купалы пішуць наўздзіў лаканічна: «трагічна памёр». Тут, на чужыне, кажуць «скончыў жыццё самагубствам», і разумеюць, што ён адышоў зморaны, духоўна паранены, але не пераможаны».

Канкрэтызуем «чуткі», даўшы слова Уладзіміру Федасеенку (празаіку)—аповяд пра сустрэчу з цёцяй Фірай, з яе мужам Барадулькам, з цёцяй Уладзяй і...

У 1950 годзе, завітаўшы к сваёй цётцы, ён (тады—студэнт партшколы, цёця Фіра — вызваленая партайгеноссэ на адным з вялікіх прадпрыемстваў Мінска, дзядзька Барадулька — узначальваў райаддзел міліцыі), — застае ў сваіх суродзічаў гасцей: Купаліху і Бэндэ («Я ж тады вучыўся па яго падручніках!»). Здзівіўся хлопец, але цёця Фіра кажа: гэта нашы добрыя знаёмыя, сябры, яшчэ з вайны, калі яны жылі ў Маскве ў гасцініцы «Масква», дзе дзядзька Барадулька (міліцэйскі старшы опер) вартаваў урад БССР. Тым чорным вечарам, пачуўшы нейкі шум на калідоры, Барадулька выскачыў, а знізу галасы і мітусня: «Купала, — нешта там, — Купала»... Але Барадулька рынуўся не ўніз, а ў нумар да сакратара ЦК па прапагандзе Гарбунова (альбо Кісялёва? — Федасеенка вагаецца, ці тое прозвішча). Той за сталом, унурыўшыся.

— Што з Купалам? — запытаўся Барадулька.

Той, зняважліва махнуўшы, паказаў на вэрхал на стале:

— А што — Купала. Во—Купала. Бразнуў па стале і выскачыў. Дзе ён там цвэндае?

А на стале — пабіты сподак, перакуленая чарка і бутэлька з каньяком...

Агульны план карціны «Беларускія пісьменнікі ў Купалы». Камера наблізіцца да кнігі, на якой ляжыць рука Купалы, пойдзе рукапісны тэкст:

«Масква 27 мая 1942 г.

Дорогой Иван Доминикович! (Мінаем першыя абзацы).

Находите-ли Вы возможным по состоянию здоровья приехать в Москву в середине июня дней на 10—15? Вот пока и все. Ваш Тимох Горбунов» (ЛМЯнК, № 471).

**Аўтар:**

— Да свайго шасцідзесяцігоддзя не дажыў ён нейкіх дзесяць дзён...

Таварыш Сталін зноў паказвае: «ты, ты, ты, ты»...

«Я?», — аўтар азіраецца,

і на экране — фота «Беларускія пісьменнікі-ардэнаносцы». Якуб Колас, Янка Купала, яўна «падманціраваны» Пятрусь Броўка і Змітрок Бядуля.

*Сталін тыцкае на «падманціраванага»* (мы яго «вымем»), Броўка «загаворыць»:

«Аднойчы Аляксандр Твардоўскі, *сустрэўшы мяне, сказаў:*

— А ведаеш, прыехаў Янка Купала... (голас Зносака: «А ведаеш, прамежду протчым, дзякуй Аляксандру Трыфанавічу, інакш бы...») ...давай наведаем яго. Праз гадзіну мы сядзелі ў гасцініцы «Масква», у нумары 414 у Янкі Купалы. Усе былі ўзрадаваны ад сустрэчы. Мяне цешыла тое, што на гэты раз дзядзька Янка быў весялейшы... Ён нават прачытаў свой славуты верш «Беларускім партызанам»... Быў у добрым настроі... Забавіліся так, што і占 заначавалі... (Сяброўскі шарж А. Волкава на Я. Купалу «А гармонік грае, грае»). Бясспрэчна, успамінаў Ляўкі... І маці, маці... І назаўтра ён, развітваючыся, запрашаў нас: «Хлопчыкі, праз некалькі дзён мне шэсцьдзесят. Прыходзьце да мяне, сустрэнемся!»

(голас Зносака — на хроніцы часоў вайны — гасцініца «Масква» і канцэртная зала імя Чайкоўскага: «Прамежду протчым, «хлопчыкі», «прыходзьце да мяне». А дзе ж — афішы? Зала Чайкоўскага?»)...

А Сталін зноў паказвае. «Ты, ты, ты, ты»... *Паказвае ўжо—на Купалу. Той маўчыць.* Ягоны твар мяняецца, ён чэзне, вочы вытвараюць нешта несусветнае — адно прыплюшчана, другое быццам хоча лопнуць ад натугі (сяброўскі шарж К. Елісеева, «Литературная газета» 8.06.1934).

*Купала пачынае «гаварыць»:*

**Ты сонца для нас, што зямлю асвяціла**
**І ласкай сагрэла палі, гарады...**

*Сталін пачынае апладзіраваць.*

**Ты рэк паўнаводных імклівая сіла,**
**Празрыстасць крыніц — дарагі правадыр!**

Апладзіруюць Яжоў і Кагановіч, потым Берыя. А верш ужо гучыць экзальтаваным срэбрана-дзявочым піянерскім голасам:

**Табе — наша радасць, любоў і адданасць,**
**Табе — пяе славу сусветная шыр.**
**Вядзі нас, любімы, табой мы з'яднаны,**
**Ты наша жыццё — дарагі правадыр.**

Апладзіруюць Булганін, Малянкоў, Хрушчоў, Брэжнеў, Андропаў, Чарненка... Гарбачоў клянецца ў нечым «самым-самым», а Лук'янаў прыкладае пяцярню да сэрца... Ельцын склаў паперкі, тэпае з трыбуны, і пайшоў — куды?..

**Твой вобраз, як покліч, устаў над зямлёю,**
**Заве пераможна ісці ў барацьбе.**
**Мы ўсе ля Крэмля нашым сэрцам з табою,**
**І першая думка у нас—пра цябе.**

Чарнобыль, Вільнюс, Карабах, аварыі і катастрофы, чэргі, мітынгі, пустэча з жахам цэннікаў у магазінах («между протчым»)

**Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,**
**Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.**
**Прымі прывітанне, якое прыносіць**
**Табе, правадыр, беларускі народ.**

Калі ўсё гэта адгрыміць.., мы спусцімся ў метро, на станцыю «Купалаўская». Праімчыцца, сціхне электрычка... Чуецца *жаласная мелодыя* на словы *«Маці мая, маці...».* І на ёй, за кадрам, пачынаецца аповяд архітэктара Г. Заборскага — пра тое, як ён бачыў смерць Купалы.

Ён ляжаў тады ў шпіталі ў Сходні пад Масквой, з цяжкім раненнем. У Маскву ў гасцініцу «Масква» яго паклікалі: П. К. Панамарэнка загадаў сабраць дзе хто жывы — усіх больш-менш вядомых беларускіх дзеячаў культуры (между протчым, немцы ў Мінску нешта пачыналі варушыцца з беларускім «адраджэннем», дык жа...). Дык тым вечарам Г. У. Заборскага паклікаў да Купалы архітэктар Воінаў (яго, прамежду протчым, СНК БССР па тэлеграме выклікаў з Новасібірска ў той самы дзень, як і Купалу з-пад Казані). Дык ідуць яны наверх і бачаць, як Купала, стоячы спіной да поручняў у разняволеным «напаўпрысеўшы», размаўляе з нейкай сімпатычнай парай маладых — «яна і я»...

Заборскі спыніцца ў рагу на лесвічнай пляцоўцы,

Воінаў наблізіцца да іх, увойдзе ў іх прыязную гамонку, нешта скажа хлопцу, павядзе рукой па хлопцавай «ясенінскай» галоўцы,

а Купала ў гэты момант, размаўляючы з дзяўчынай, весела, па-маладому засмяецца, *узмахне абедзвюма рукамі* і, хітнуўшыся назад, кульнецца ўніз...

дзяўчына рынецца лавіць, хапаючы за ногі, за калашыну, за туфлі...

«Ачуняўшы, я зірнуў туды: да нас ідзе мастак Ахрэмчык, і глядзіць во гэткімі вачыма...»

Партрэт Купалы—мастака І. В. Ахрэмчыка. Партрэт — найлепшы. Мяккі позірк і дабрыня — з затоенай «джакондавай» усмешкай.

Зноў — на станцыі метро.

— «Купалаўская». Пераход на станцыю «Кастрычніцкая»... («Между протчым, дальше—площадь Леніна?»)...

— Осторожно, поезд отправляется...

Адначасова падыходзіць электрычка і на процілеглую платформу.

— Станцыя Купалаўская. Наступная Няміга.

Аддаляецца рытмічны перастук на рэйках, узнікае тэлеграфны шоргат — ад Купалы тэлеграма (твор яго — апошні):

«Все хорошо лечусь Кремлевской клинике безпрерывные дожди холод гостиница Москва 414 Привет Купало».

З бірузы граніту праступе «восеньскі» партрэт Купалы — скульптура Анікейчыка.

— ХОЛАДНА БЫЛО КУПАЛУ НА ТАЕ КУПАЛЛЕ... ХОЛАДНА І МОКРА...

Ганарар за публікацыю сцэнарыя аўтарская група ахвяруе Літаратурнаму музею Янкі Купалы.

## СУСТРЭЧЫ

# «ЗЯМЛЯ БЕЛАРУСІ — ГУМАННАЯ...»

**Колькі год таму мы знаёмілі нашых чытачоў з перакладамі вершаў асецінскага паэта Аляксандра ПУХАЕВА. Зараз, як стала вядома, Аляксандр Спірыдонавіч часова жыве ў Віцебску, на радзіме жонкі.**

— *Не варта пытацца, чаму вы пераехалі* — у Асеціі вайна...

— Так, два гады ўжо, як горад Цхінвал у жорсткай блакадзе. Дарогі перарэзаны, больш паловы насельніцтва стала бежанцамі. Людзі з'язджаюць да суайчыннікаў у Паўночную Асецію, у Стаўрапольскі, Краснадарскі краі. Шмат раненых і забітых. Гарадскія могілкі абстрэльваліся, і загінуўшых баевікоў (так завуць байцоў нацыянальнай гвардыі) хавалі проста ў двары школы.

— Давайце вернемся да вытокаў канфлікту.

— Пачалося ўсё з таго, што Паўднёвая Асеція, што знаходзіцца ў складзе Грузіі, выказала жаданне злучыцца з Паўночнай. Пры Гамсахурдзія пачаўся ўзброены канфлікт. Пра ўсё, што мы зведалі, расказвае кніга «И кровь, и пепел», складзеная журналістамі, відавочцамі падзей, з Расіі і замежных краін. У нас кніга разышлася за паўгадзіны. Чытаць яе цяжка.

— Ну не цяжэй жа, чым жыць у тых умовах!

— У самой Грузіі, якая перажыла грамадзянскую вайну, дасюль няпростая абстаноўка. Кожны дзень кагосьці забіваюць, бо ў Гамсахурдзія засталося нямала прыхільнікаў. Тбілісі ў развалінах. Грузінам непатрэбна вайна з Асеціяй: у ёй не будзе пераможцаў.

— Як «вайна» па-асецінску?

— Хэст. Мова наша, заўважу, лічыцца складанай, яна адносіцца да іранскай групы моў. Бліжэйшая яе родзічка — таджыкская. Кнігі і газеты выходзяць у нас на асецінскай, рускай, грузінскай мовах.

— Якімі тыражамі?

— Паэзія — да трох тысяч, проза — да дзесяці.

— Як і ў нас. Але беларусаў каля дзесяці мільёнаў, а асецінаў...

— Трошкі менш, чым мільён. Ды яшчэ тысяч 50 за межамі — у Турцыі, Сірыі, Францыі, Канадзе.

— Дзякуючы намаганням Шэварднадзе *абстаноўка, здаецца, нармалізуецца?*

— Так, ёсць спадзяванне, што канфлікт усё ж вырашыцца мірным шляхам. Мне, дарэчы, неаднаразова даводзілася сустракацца з Шэварднадзе ў ранейшыя часы, мы знаёмыя асабіста. Жонка яго журналістка, працуе ў жаночым часопісе.

— Колькі слоў пра вашу сям'ю.

— Жонка мая ўрач, яна пакуль што там, у Цхінвале. Старэйшы сын вучыцца ў Мінскім тэхналагічным інстытуце. Ма*лодшаму 15, ён школьнік.*

— З Беларуссю ў вас даўняе сяброўства, ці не так?

— Першая мая кніга перакладаў з беларускай з'явілася ў 1964 годзе. Гэта былі вершы Янкі Купалы. У 1975 г. выйшла анталогія беларускай паэзіі. Я быў складальнікам і анталогіі беларускага апавядання. Меў намер да 100-годдзя Максіма Багдановіча выдаць яго вершы на асецінскай мове, ды перашкодзіла вайна. Увогуле творчыя сувязі нашых літаратур даволі цесныя. Ваша зямля — гуманная, мірная зямля. Я аб'ездзіў яе ўсю, прысвяціў ёй нямала твораў, знайшоў тут верных сяброў. Пакуль я жывы, будуць жыць і мая прыязнасць да Беларусі, мая павага да беларускай літаратуры.

— Дзякую за гутарку. Мір вашаму дому.

НАШ КАР.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### Алесь Рыбак і ... «SSI»

Урывак з аповесці Алеся Рыбака «Што пасееш...» у перакладзе на англійскую мову Дзіяны Тэрнер змешчаны ў адным з нумароў міжнароднага часопіса «SSI». Гэты альманах раз у два месяцы выпускае выдавецтва «Міжнародны культурны абмен», што знаходзіцца ў Злучаных Штатах Амерыкі. «SSI» публікуе творы найбольш знакамітых пісьменнікаў, а таксама тых аўтараў, хто, на думку выдаўцоў, заслугоўвае таго, каб яго аповесці ці апавяданні сталі вядомымі ва ўсім свеце. Урывак з аповесці А. Рыбака перад гэтым друкаваўся ў англамоўным варыянце часопіса «Советская литература» і прыцягнуў увагу вострым псіхалагізмам, дакладнай вымалёўкай чалавечых характараў.

### Музычныя тэрміны — па-беларуску

Група музыкантаў і філолагаў пад кіраўніцтвам доктара навук Г. Куляшовай прыступіла да падрыхтоўкі вялікага тлумачальнага музычнага слоўніка. Гэтае энцыклапедычнае выданне мяркуецца з цягам часу выпусціць у двух варыянтах — руска-беларускім і беларуска-рускім. Будзе дадзена этымалогія іншамоўных слоў. Так што робіцца яшчэ адзін практычны крок па выкананні Закона аб мовах.

### Надрукавана ў часопісе «Кіеў»

У трэцім нумары часопіса «Кіеў» змешчана паэма ў прозе Янкі Сіпакова «Хата», перакладзеная на ўкраінскую мову Данілам Кананенкам. Упершыню гэты твор быў апублікаваны ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».



# Беларусь Чэслава Сенюха

**Пачатак мая гэтага года. За вакном маленькага лакойчыка студэнцкага інтэрната, у якім жывуць удзельнікі семінара маладых журналістаў Літвы, Беларусі і Украіны, мігаціць агнямі вячэрняя Варшава. Чалавек з сівізной у валасах, які сядзіць побач са мной, спявае:**

Беларусь, хай слова гэта будзіць
новы дух між нас!
Нам дабро яе — во мэта і найвышшы
наш наказ.
Ні сляза ані стагнанне, ні пакора
ані страх.
Толькі праца і змаганне — гэта наш
да мэты шлях!

**Так пачалося маё знаёмства з Чэславам Сенюхам, аўтарам перакладаў на польскую мову твораў Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Арлова ды дзесяткаў іншых беларускіх літаратараў. Я не мог не запісаць расказ гэтага чалавека, лёс якога цесна звязаны і з Польшчай, і з Беларуссю...**

— Гэтую песню — стары ваш гімн,— расказвае Чэслаў Сенюх,— я ведаю з СБМ. Яму нас вычулі настаўнікі школы ў Любчы, дзе я вучыўся з 1941 па 1944 гады. Пачатковая школа была беларускай — іншых тады не было. Дагэтуль памятаю нашых настаўнікаў, асабліва аднаго, які выкладаў у нас гімнастыку, вельмі цікавага чалавека, родам з Любчы. Ведаю, што ён быў сапраўдным беларусам, як кажуць, беларускім нацыяналістам. Ужо пасля вайны я сустрэўся з ім тут, у Варшаве. Аб мінулым ён гаварыў мала. Гэта было небяспечна — прызнацца, што ў час вайны ты быў беларусам. Людзі дзяліліся на сваіх і чужых, і лёс такіх, як ён, быў складаны.

Раскажу такую гісторыю. У Войнаве, каля Любчы, жылі мазуры. І адзін з іх, малады хлопец, якога я няблага ведаў, пасля 1941 года аказаўся на баку беларускіх нацыяналістаў. Ён гэтага не ўтойваў. У 1944-ым ён пайшоў на захад і таму ацалеў. Жыў ён у суверэннай Польскай Народнай Рэспубліцы, але надышоў дзень, калі па яго прыйшлі... Яго судзілі як удзельніка беларускага руху, і толькі ў 1957 годзе ён вярнуўся з Калымы ў суверэнную Польшчу. Адзін бог ведае, што ён перажыў за сваю беларускасць... А такіх чалавечых лёсаў адзін я ведаю з два дзесяткі. Гісторыя ж ведае іх тысячы.

Час вайны... Тады была проста Беларусь, без падзелу на Заходнюю і Усходнюю. Зразумела, што ў гітлераўцаў была свая ідэя, але ў беларусаў — свая. І мне здаецца, што існаванне ідэі стварэння беларускай дзяржавы было непазбежным. Дарэчы, сярод вынікаў ажыццяўлення гэтай ідэі было стварэнне Саюза Беларускае Моладзі, сябрам якога стаў і я, паляк. Пра гэтую арганізацыю гавораць рознае, але трэба разумець: тады ў ёй былі ўсе школьнікі, таксама як у ваш час усе прайшлі праз піянерыю. Але ў адрозненне ад яе СБМ быў нацыянальнай арганізацыяй.

Увогуле, мне здаецца, што сярод усіх гэтых вашых дзеячаў таго часу пачуццё беларускасці было вельмі шчырым. Спачатку яны праглынулі прынаду першых бальшавікоў, якія прыйшлі ў трыццаць дзевятым годзе, вызваліўшы вас ад палякаў. Але хапіла аднаго года, каб яны зразумелі: неяк так не вельмі добра, што яны вызваленыя. І таму, калі прыйшлі немцы, дык вельмі шмат беларусаў шчыра паверылі, што гэта ёсць адзіны шанц для пабудовы беларускай дзяржаўнасці. Ва ўсіх на вачах было тое, што зрабілі бальшавікі, колькі беларусаў разам з палякамі яны павезлі да белых мядзведзяў. Так і майго бацьку арыштавалі ў 1940 годзе, судзілі ў Наваградку і вывезлі ў Сібір. А ў 1941 да нас вярнуўся напісаны да яго ліст. На канверце было напісана «Памёр» — і ўсё.

У студзені 1944 нас ізноў вызвалілі бальшавікі. А ўжо ў студзені 1945 года быў у Польшчы. Была такая арганізацыя— «Бюро рэпатрыяцыйнэ», якой кіравалі тыя ж бальшавікі, толькі польскія. Нам казалі, што наша бацькаўшчына не тут, толькі там, за мяжой. Так, я паляк, палякамі былі мае бацькі і дзяды. Але ж я нарадзіўся і гадаваўся ў Беларусі...

Цяпер шмат гавораць пра адносіны паміж беларусамі і палякамі як падчас вайны, так і пасля яе... Што я памятаю пра вайну? Гэта быў адзін вялікі пажар. Калі нейкую вёску не палілі за дапамогу чырвоным партызанам немцы, дык яе маглі спаліць партызаны за тое, што нехта там быў солтысам і служыў немцам. Паўсюль у нашым гарадку будаваліся бліндажы, і немцы, здаецца, увогуле не высоўваліся за Нёман. Там было царства партызаншчыны, дадам, рознай —і Арміі Краёвай, і чырвоных партызан. І таму здаралася рознае...

З гісторыі таго, што было, не выкінеш. Гэта трэба аналізаваць, з гэтага трэба рабіць высновы, але нельга гэтага забываць ці тым больш — патрабаваць помсты. Мінулага не вернеш, таму справядлівымі мы павінны сёння быць. Нацыі, вызваляючыся ад прыгнёту каланіяльнага, гітлераўскага ці савецкага — як хочаце,— будуць спрабаваць вызначыць сябе як нацыі. Ужо цяпер рухавіком робіцца ідэя: народ, нацыя, мы... Мы, якія гаворым на нашай мове, вучымся ў нашых школах, чый урад гаворыць на нашай мове... Гэты этап непазбежны. Але гэты нацыяналізм павінен быць еўрапейскім. Так, калі я чытаю праект пастановы вашага Вярхоўнага Савета аб нацыянальнай палітыцы ў Беларусі і не знаходжу там словаў «нацыянальныя меншасці», дык мне здаецца, што нешта тут не ў парадку. Праўда патрабуе дакладнасці: меншасць ад большасці, і Еўропа на гэта згадзілася. Беларуская меншасць жыве ў Польшчы, польская — у Беларусі, і гэтыя меншасці трэба паважаць. Мне здаецца, тутэйшыя беларусы не скардзяцца на Польшчу. Яны маюць свае газеты, школы, палітычныя партыі і нават вылучаюць дэпутатаў ад гэтых партый. Але калі я еду ў Беларусь, дык чую ад мясцовых палякаў: забаронаў няма, але перашкоды вельмі значныя, нават з адкрыццём школ. Урэшце, усё гэта вырашальна. Патрэбна толькі, каб вы, свядомыя беларусы, разумелі: побач з вамі жывуць палякі, татары, яўрэі, расейцы, якія каранямі ўраслі ў гэтую зямлю. Трэба зрабіць, каб яны адчувалі сябе не групай, але меншасцю насельніцтва. Мы павінны гэта ўлічваць, калі хочам быць еўрапейцамі. Я — паляк, але мой лёс звязаны з Беларуссю. Калі б я не лічыў, што гэта так, я ніколі б не ўзяўся за пераклады вашых пісьменнікаў. Я раблю гэта дзеля таго, каб палякі ведалі, хто такія беларусы. Дакладнае разуменне людзьмі таго, чым ёсць суседні народ — кардынальнае пытанне нашага часу. З гэтай мэтай мы стварылі Саюз польскіх беларусістаў, Польска-беларускі клуб ды іншыя арганізацыі. Трэба зрабіць усё, што магчыма, каб тут усвядомілі: ёсць не толькі беларускі народ, але і беларуская нацыя, якая імкнецца да выяўлення сваёй іншасці, што трэба прызнаць і шанаваць яе як матэрыю беларускай дзяржавы. Мы працуем на тое, каб палякі зразумелі: за ўсходняй мяжой нашае краіны знаходзіцца не былы СССР ці БССР, але беларуская дзяржава. Я за яе.

«Еўропа Айчызнаў» — так сказаў дэ Голь. І таму давайце разумець адзін аднаго, давайце вучыцца адзін у аднаго. Сёння мы мусім паразумецца, бо ў нас агульная будучыня — у Польшчы і Беларусі.

**Запісаў У. ПАНАДА.**

**З ДРУКУ СУСЕДЗЯЎ**

# «ПЕРАВАРОТУ НЕ БУДЗЕ, КАЛІ Я ЯГО НЕ АРГАНІЗУЮ»

**Гутарка карэспандэнткі газеты «Летувас Рытас» Р. Грынявічутэ з летувіскім міністрам аховы краю А. БУТКЯВІЧУСАМ уяўляе пэўную цікавасць і для беларускіх чытачоў. Таму і прапануем вашай увазе пераклад гутаркі.**

**— Апошнім часам вы шмат падарожнічаеце. Шмат каго здзівіў ваш візіт да Папы Рымскага. Як здарылася, што кіраўнік вайсковага ведамства патрапіў у Ватыкан?**

— Касцёл, апроч іншага, з'яўляецца вялікай палітычнай сілай. Таму з Папам Янам-Паўлам II мы размаўлялі аб тым, як Рымска-каталіцкі касцёл мог бы падтрымаць Летуву і іншыя Балтыйскія дзяржавы ў іх імкненні пазбавіцца прысутнасці Расійскай Арміі на сваёй зямлі. У асобе Яна-Паўла II я ўбачыў чалавека, які мысліць вельмі ясна, субтыльна і па справе. Ён — вялікі палітык. А таксама я зазнаў яго добразычлівасць.

Мае іншыя падарожжы таксама мелі мэтай стварэнне сістэмы рычагоў, якія змаглі б выпхнуць Армію Расіі з Летувы.

Старыя міжнародныя структуры Еўропы, якія цудоўна працавалі ў часы «халоднай вайны», цяпер ужо не могуць валодаць сітуацыяй.

Сённяшняе НАТА таксама ўжо не тое, што было раней, і шукае сваю новую ролю ў Еўропе, а гэта дае дзяржавам Балтыі магчымасць уключыцца ў агульную сістэму абароны. Геапалітычнае становішча Балтыйскіх дзяржаў на ваенны час з'яўляецца безнадзейным, аднак у мірны час з пункту гледжання стабільнасці ў новай Еўропе аж да Урала мы становімся вельмі важкімі.

**— А чаму для Летувы так важна, каб Расійская Армія пакінула наш край? Я нядаўна чула разважанні нямецкіх палітыкаў аб тым, што немцам лепей дапільноўваць Армію Расіі на сваёй тэрыторыі, чым яна будзе бескантрольна дзейнічаць ва Усходняй Еўропе. Чаму для Летувы такая пастава непрымальная?**

— Расія ніколі не адмаўлялася ад сваіх прэтэнзій кантраляваць тэрыторыю Балтыйскіх дзяржаў. Прысутнасць Расійскай Арміі ў Летуве з'яўляецца адным з мноства сродкаў трымаць нас прывязанымі да Расіі. Ані на хвіліну кіраўнікі Расіі не могуць дапусціць думкі, каб адпусціць ад сябе дзяржавы Балтыі. Крыху раней яны былі вымушаны паслабіць свае пазіцыі, але цяпер зноў іх узмацняюць.

**— Дзе ў такім выпадку наш шанц?**

— За ўсходнімі межамі Летувы адбываюцца два пераплеценыя між сабой працэсы. Велізарная тэрыторыя самой Расіі раскалваецца на нейкія 32 кавалкі. Гэты працэс стымулюе рост расійскага нацыяналізму. Нацыянальнае самавыяўленне рускіх заўсёды супадае з імперскай самасвядомасцю. Цяпер гэтае пачуццё мацнее і стымулюе адраджэнне Расіі, у сувязі з чым паўстае рэальная пагроза нашай бяспецы.

Сёння Расія разбураецца і не мае яснай перспектывы як краіна, але праз пару гадоў, я прагназую, яна можа ўяўляць вялікую пагрозу для Еўропы. Вось тады расійская ваеншчына набудзе зусім іншае, згубнае для нас значэнне.

**— Унутраная палітыка Летувы ўсё выразней арыентуецца на новыя парламенцкія выбары. Прагназуецца, што ў новым Сойме будуць пераважаць дэпутаты, схільныя да левых поглядаў. Як вы ацэньваеце такія тэндэнцыі?**

— У Сойм і ва ўрад прыйдуць людзі, якія ў большай ступені звязаны з эканамічнымі інтарэсамі, чым гэта ёсць у сённяшнім парламенце. Да ўлады прыходзяць рэалісты ў прамым сэнсе гэтага слова. Яны прыходзяць рабіць не толькі палітыку, але і бізнес. Для гэтых людзей вельмі важна, каб з Расіяй былі добрыя стасункі, хутчэй за ўсё будуць рабіцца палітычныя ўступкі, што можа ўзаконіць прысутнасць Арміі Расіі ў Летуве.

**— Ці гэтая акалічнасць асуджае Летуву быць сатэлітам Расіі, альбо ёсць усё-ткі якое выйсце з гэтага становішча?**

— Хуткі вывад расійскага войска з Летувы — сродак адчапіцца ад Расіі, аднак гэта не з'яўляецца самой мэтай. Наша мэта — змяніць стагоддзямі ўсталяваны ўплыў рускіх і немцаў.

Уплыў Расіі быў і ўсё яшчэ застаецца, зноў выявіліся інтарэсы Германіі. Калі мы здолеем уключыцца ў фарміраванне новага рэгіёна ўплываў, скажам, Балта-скандынаўскага, то тады дасягнем жаданага выніку. Нельга забывацца і на ўсходнюю палітыку — тут мы таксама маем сваіх гістарычных саюзнікаў — Беларусь і Украіну.

**— Ці дастаткова перадумоў, каб гэтыя пласты, што складваліся стагоддзямі, зварушыліся б?**

— Мне здаецца, што гісторыя нам дае унікальны шанц. На ўсходзе ствараюцца новыя дзяржавы. Расія развальваецца, а тым самым становіцца новай Расіяй. Пакуль што мы яшчэ можам у пэўнай ступені валодаць працэсамі, якія адбываюцца ў Расіі. Калі мы цяпер садзімся за стол перамоваў, на тым яго баку сядзяць людзі, з якімі яшчэ пару год таму мы сябравалі, калі яны не былі пры ўладзе.

Разумеючы, што праз пару год Расія стане на ногі і зноў будзе нам пагражаць, мы павінны ведаць, чым нам будуць пагражаць і як мы можам бараніцца. Дык, можа, тая вось ад Балтыйскага да Чорнага мора — не толькі наіўная мроя Вялікага княства? На маю думку, гэта старажытная палітыка Вітаўта, сэнс якой — ізаляцыя Расіі.

**— Што міністр аховы краю мяркуе аб магчымасці вайсковага перавароту?**

— Ці будзе ў Летуве здзейснены вайсковы пераварот? Калі я яго не арганізую, то яго і не будзе.

Пераклаў Алесь МІРОНЧЫК.


ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**





**Нумар падпісаны ў друк 25.06.92 у 18.10.**





**Індэкс 63856
Тыраж 18068**

**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**